А. В. Вольскі, І. А. Гімпель

# ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Зацверджана
Міністэрствам адукацыі
Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

УДК 821.161.3.09(075.2=161.3)
ББК 83.3(4Беи)я71
В71

Р э ц э н з е н т ы:
кафедра беларускай мовы і методыкі яе выкладання ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» (канд. пед. навук дацэнт *В. І. Свірыдзенка*);
начальнік аддзела пачатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі» *Т. А. Няборская*

**Умоўныя абазначэнні:**

 — пытанні і заданні да тэкстаў;

 — заданні павышанай цяжкасці;

 — слоўнік.

**Вольскі, А. В.**
В71 Літаратурнае чытанне : падручнік для 3-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання : у 2 ч. / А. В. Вольскі, І. А. Гімпель. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2012. — Ч. 1. — 112 с. : іл.
ISBN 978-985-559-018-8.

**УДК 821.161.3.09(075.2=161.3)**
**ББК 83.3(4Беи)я71**

**ISBN 978-985-559-018-8 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-559-017-1**

# ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, БЕЛАЯ, БЕЛАЯ РУСЬ!..



## Родная зямля

*Уладзімір Караткевіч*

Я хачу правесці вас па зямлі, якая для мяне даражэй за ўсё. Самы ўтульны і чароўны кут.

Якая яна, мая зямля? Гэта залатыя палі збажыны з сінімі вочкамі васількоў. Светлыя ад бяроз гаі, што аглухлі ад птушынага звону. І пушчы, падобныя на храмы. Пушчы, дзе горда нясуць свае кароны алені. Гэта бясконцыя жылы рэк, у якіх плешчуцца бабры і рыба на захадзе сонца. І гэта амаль адзінаццаць тысяч азёр, чыстых, як усмешка дзіцяці.

Гэта ў мінулым гераічная і шматпакутная зямля. Безліч разоў грукалі па ёй калясніцы вайны. Але мы, дзеці Беларусі, ганарымся тым, што ў гэтых войнах яна ніколі не была агрэсарам. Іншая справа,

што яна заўсёды мужна і да канца бараніла сваю праўду і веру.

Памяць маёй зямлі аб гэтым і ў старадаўніх гарадзішчах, і ў курганах, пад якімі спяць яе абаронцы.

І перш за ўсё памяць маёй зямлі — гэта людзі і іх вечная, неўміручая праца.

Пранікніцеся любоўю да маёй роднай Беларусі, людзі. Велічная, гордая, яна таго вартая.



**Храм** — збудаванне, прызначанае для адпраўлення набажэнства і рэлігійных абрадаў, царква.

**Калясні́ца** — у старажытных грэкаў і рымлян — двухколавая павозка, якой карысталіся ў час спаборніцтваў, баёў.

**Агрэ́сар** — захопнік.

**Гарадзі́шча** — месца, дзе захаваліся рэшткі старажытнага горада.

**Курга́н** — высокі старадаўні магільны насып.

**Неўміру́чы** — які застаецца назаўсёды ў памяці людзей.



1. Якімі словамі перадае пісьменнік Уладзімір Караткевіч прыгажосць і веліч нашай зямлі?
2. З чым параўноўвае аўтар пушчы і азёры? Зачытайце.
3. Прачытайце апошнія радкі тэксту. Да чаго заклікае аўтар?
4. Як вы ставіцеся да сваёй роднай зямлі?

# Родны кут

***Васіль Жуковіч***

Між лясамі ды азёрамі —
васільковыя палі...
Я не ведаю, не ведаю
прыгажэйшае зямлі.

І бярозкі над дарогамі,
і рамонкі ў мурагу,
і рабіначкі за вокнамі
разлюбіць я не змагу.

Льюцца песні жавароначкаў
над прасторамі палёў,
і даносіцца тужлівае
развітанне жураўлёў.





1. Апішыце сваімі словамі пачуцці, выказаныя ў вершы.
2. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.



# Беларускія краявіды

***Анатоль Грачанікаў***

Беларускія
Краявіды...
Пераразвоны
Азёр і бароў.
Над палеткамі
Бульбы і жыта —
Песня
Велічных курганоў.

Гэта наша
Зямля дарагая,
Гэта нашы
Лугі і палі,
Над якімі
Спрадвеку лунае
Бусел —
Сімвал Бяссмерця
Зямлі.



Сі́мвал — умоўнае абазначэнне якога-небудзь прадмета, з'явы.



Як аўтар называе бусла? Чаму?
Якая карціна роднага краю паўстае перад вамі, калі чытаеце гэты верш? Вусна намалюйце яе.
Вывучыце верш на памяць.

# Купалаў дом

***Тамара Тарасава***

Ёсць у Мінску вельмі прыгожы куточак — парк імя Янкі Купалы. Невялікі, утульны, ён знаходзіцца амаль у цэнтры горада, на беразе спакойнай Свіслачы. Гэта ўлюбёнае месца адпачынку мінчан. На цэнтральнай алеі парку на высокім гранітным пастаменце ўзвышаецца велічны помнік паэту. Ля падножжа крынічка і папараць-кветка — сімвалы неўміручасці і чысціні. Здаецца, Купала толькі выйшаў з дому, яшчэ адысціся не паспеў і стаіць — спакойны і задуменны. На плечы накінута лёгкае паліто, у правай руцэ сукаваты кіёк, верны спадарожнік далёкіх і блізкіх вандровак. Амаль побач з помнікам, сярод старых разгалістых дрэў, размясціўся двухпавярховы будынак. Гэта — Літаратурны музей Янкі Купалы, ці, як яго называюць, Купалаў дом. Праўда, не той, у якім жыў паэт, а новы, пабудаваны спецыяльна пад музей.



У Літаратурным музеі Янкі Купалы сабрана і клапатліва захоўваецца шмат матэрыялаў: фотаздымкі, партрэты, рукапісы, кніжкі паэта, ілюстрацыі да яго твораў. Яны знаёмяць наведвальнікаў з жыццём і багатай творчай спадчынай паэта. Асаблівую ўвагу наведвальнікаў прыцягваюць палотны мастакоў — Міхася Савіцкага, Янкі Раманоўскага, Валянціна Волкава, Івана Ахрэмчыка, скульптуры Заіра Азгура, Андрэя Бембеля і іншых.

Сёння Літаратурны музей Янкі Купалы — сапраўдны культурны цэнтр сталіцы. Тут праводзяцца цікавыя літаратурныя вечары, сустрэчы, рыхтуюцца і выдаюцца навуковыя зборнікі, буклеты, кнігі, прысвечаныя жыццю і творчасці славутага беларускага Песняра.



**Пастаме́нт** — аснова, фундамент помніка, калоны, статуі.

**Букле́т** — падарункавае, даведачнае выданне ў выглядзе невялікай ілюстраванай кніжкі, якая разгортваецца як шырма.



1. Чаму парк носіць імя Янкі Купалы?
2. Дзе размешчаны Літаратурны музей Янкі Купалы? Як па-іншаму называюць гэты музей? Чаму?
3. Знайдзіце і зачытайце тую частку тэксту, якая праілюстравана.
4. Што вы ведаеце пра Янку Купалу? Якія творы паэта чыталі?

# Я нарадзіўся беларусам

***Віктар Швед***

Я нарадзіўся беларусам,
Беларусам буду жыць!
Мову родную вучуся
Шанаваць, цаніць, любіць.

Сваю родную старонку
Я люблю, як і бацькоў,
Што вучылі песні звонкай,
Прывівалі мне любоў

І да мовы, да дубровы,
Да палёў і да лугоў.
І заўсёды — да народа,
Што жыве тут ад вякоў.

Я клянуся: не зраку́ся
Сваё роднае любіць.
Быў і буду беларусам,
Пакуль толькі буду жыць!





1. Чаму да роднай мовы трэба адносіцца беражліва? Якімі словамі сказаў пра гэта паэт?
2. Як вы разумееце выраз «Сваю родную старонку я люблю, як і бацькоў»?
3. Выберыце і зачытайце тыя радкі верша, якія найбольш вас кранулі.
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## Роднае слова

*Казка*

***Артур Вольскі***

Здарылася так, што людзі аднаго краю палічылі, быццам мова, якою гаварылі іх бацькі, дзяды і прадзеды, непрыгожая. Нават грубая і нягеглая.

— І чаму, — абураліся адны, — у нас «р» толькі цвёрдае, а ў суседзяў ёсць і мяккае?

— Так, так, — згаджаліся другія, — у суседзяў «г» гучнае, а ў нас — амаль як «х»...

— А чаго варта наша дзеканне і цеканне! — дадавалі трэція. — Ці «у нескладовае»...

Што ж рабіць?

Думалі, думалі і надумалі ўрэшце пазычыць мову ў суседзяў. Яна, маўляў, і багацейшая, і прыгажэйшая. Хоць і вельмі блізкая да тутэйшай. І пазычылі. І ніякіх быццам складанасцей. Многія ж словы аднолькава ў абедзвюх мовах гучалі. Такія важныя і патрэбныя, напрыклад, як «хлеб» і «соль», «мір» і «дом», «поле» і «лес»...




Але былі і несупадзенні, праз якія здараліся розныя недарэчнасці. Часам смешныя, а часам і не надта. Так, хацеў аднойчы добры чалавек нейкую паслугу зрабіць свайму даўняму сябру. Ды памыліўся. Замест паслугі непрыемнасць атрымалася. Сябар дужа пакрыўдзіўся.

А чалавек той лічыўся вельмі адукаваным. Сваёй мовай зусім гаварыць развучыўся. І пачаў апраўдвацца на мове суседзяў.

— У меня, — кажа, — были самые благие намерения...

Хаця словы ў гэтым сказе на абедзвюх мовах гучалі амаль аднолькава, адно з іх мяняла ўвесь сэнс сказанага. «Благие» ў мове суседзяў значыла — добрыя, а «благія» ў мове тутэйшай — дрэнныя, кепскія, паганыя. Усё наадварот!

І столькі падобных выпадкаў было, што і не злічыць.

А тут яшчэ і другая бяда. Пачалі блытаць тутэйшыя людзі, дзе якое «р» вымаўляецца. Дзе трэба мяккае, цвёрдае праскочыць. Дзе трэба цвёрдае, мяккае з'явіцца. Як скажа хто «брукі» замест «брюки», «трапка» замест «тряпка», так суседзі і заходзіліся ад смеху.

Ды і дзекання і цекання пазбавіцца не ўсім удалося. Толькі ў суседскай мове неўласцівае ёй вымаўленне гучала сапраўды дзіўнавата. А можа, і дзікавата. Не тое, што ў сваёй...

І зноў задумаліся людзі. Што рабіць?

Пайшлі да самага старога і самага разумнага ў той краіне чалавека. Спыталіся. А самы разумны чалавек і кажа:

— Кожны народ сваю мову мае. Кожнаму народу яна — родная. І не шанаваць, не любіць яе — тое самае, што выракацца маці ды бацькі, той зямлі, дзе мы нарадзіліся, якую родным краем завём. Адно магу вам параіць: шануйце мову родную і суседскую паважайце...

Паслухаліся людзі самага старога ды самага разумнага чалавека. І неўзабаве зразумелі, што ні адной на свеце мовай не выкажаш так дакладна свае думкі і пачуцці, як роднай. І яшчэ ўпэўніліся, што дарма ганілі яе. І багатая яна, і мілагучная. Не горшая за суседскую і за ўсе іншыя мовы.



**Нягéглая** — непрыгожая.
**Выракáцца** — адмаўляцца, не прызнаваць чаго-небудзь.
**Недарэ́чны** — сказаны, зроблены неўпапад, не да месца.
**Тутэ́йшы** — які родам з гэтай мясцовасці; які ўласцівы гэтай мясцовасці.
**Гáніць** — прызнаваць непрыгодным, дрэнным.
**Рáіцца** — пытацца, прасіць парады ў каго-небудзь.



1. Чым спадабалася вам казка? Пра што яна?
2. Што здарылася з людзьмі аднаго краю?
3. Зачытайце словы, якія аднолькава гучалі на абедзвюх мовах.
4. Над чым задумаліся людзі? Што яны вырашылі?
5. Якую параду даў ім разумны чалавек? Зачытайце.
6. Што ў гэтым творы незвычайнае?
7. Якая гэта казка (вясёлая, мудрая, страшная)?
8*. Прачытайце казку моўчкі і падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу.

## Я спяваю, ты спявай!

***Авяр'ян Дзеружынскі***

Я спяваю, ты спявай.
Я люблю свой родны край,
Край азёраў і крыніц,
Поўны цудаў, таямніц.



Нівы, звонкія лясы.
Пахнуць мёдам верасы.
Баравік сядзіць, мацак,
Не паднімеш аніяк.

А над рэчкаю ў бары
Ладзяць хату два бабры,
І гняздзечка пліска ўе —
Будуць дзетачкі ў яе.

Я спяваю, ты спявай.
Я люблю свой родны край
І ад сэрца гавару:
«Дарагая Беларусь!»



**Маца́к** — здаровы, моцны.
**Плі́ска** — невялікая пералётная птушка атрада вераб'іных з доўгім і вузкім хвастом.



1. Што ўслаўляе паэт Авяр'ян Дзеружынскі? Да чаго заклікае?
2. З якім пачуццём піша аўтар пра родны край?
3. Разгледзьце малюнак, зачытайце тыя радкі, якія адносяцца да малюнка. Як бы вы праілюстравалі гэты твор?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## ПРЫКАЗКІ

- *Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.*
- *Хто ўмее любіць Радзіму, той умее ненавідзець ворага.*
- *Адна ў чалавека маці, адна ў яго і Радзіма.*



Прачытайце прыказкі і растлумачце іх сэнс.



## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ ПА РАЗДЗЕЛЕ «ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, БЕЛАЯ, БЕЛАЯ РУСЬ!..»

1. Прачытайце першыя пункты плана да твора «Роднае слова» Артура Вольскага. Якія пункты плана вы ўставілі б замест кропак?

   а) Спрэчка.
   б) Рашэнне.
   в) ... .
   г) ... .

2. Аднавіце прапушчаныя словы ў вершы Віктара Шведа:

   а) «Я нарадзіўся ...,
   Беларусам буду ...!
   Мову родную вучуся
   Шанаваць, цаніць, любіць»;

   б) «Сваю родную старонку
   Я люблю, як і бацькоў,
   Што вучылі песні ...,
   Прывівалі ... любоў».

3. Успомніце назвы вершаў, з якіх узяты гэтыя радкі:

а) «Я спяваю, ты спявай.
Я люблю свой родны край,
Край азёраў і крыніц,
Поўны цудаў, таямніц»;

б) «Льюцца песні жавароначкаў
над прасторамі палёў,
і даносіцца тужлівае
развітанне жураўлёў»;

в) «Гэта наша
Зямля дарагая,
Гэта нашы
Лугі і палі,
Над якімі
Спрадвеку лунае
Бусел —
Сімвал Бяссмерця
Зямлі».

4. Прачытайце ўрывак з твора.

*«Здарылася так, што людзі аднаго краю палічылі, быццам мова, якою гаварылі іх бацькі, дзяды і прадзеды, непрыгожая...»*

Паразважайце, які твор можа мець такі пачатак.

Выберыце правільны адказ на пытанне:

а) апавяданне;
б) казка;
в) верш.

# У ВЕДАЎ КРАІНУ, У СВЕТ ТАЯМНІЦАЎ...



## Няпералётны вырай

***Артур Вольскі***

Сышліся хмары —
восені паслы.
І за акном не ціхне дождж-назола.
На поўдзень скіраваліся буслы,
а нас з табой ужо чакае школа.

Лістоту золкі вецер падхапіў
і закружыў яе ў апошнім танцы,
пад невясёлы восеньскі матыў
чапляецца за каўняры і ранцы.

Ах, восень!
Ты стараешся дарма,
прыкрыўшыся залочанай парфірай.

Бо што нам дождж
ды блізкая зіма:
у нас тут свой —
неператётны — вырай.

Аж да званка не змоўкне гамана
ў кожным класе вераснёвым ранкам.
Як быццам і не восень,
а вясна,
і школа —
велізарная буслянка.



Паслы́ — людзі, пасланыя куды-небудзь з якім-небудзь даручэннем.
Назо́ла — той, хто вельмі дакучае.
Зо́лкі — сыры, пранізлівы, халодны.
Парфі́ра — доўгая шырокая пурпуровая адзежына ў выглядзе плашча; убранне.
Гамана́ — бязладны шум, мноства галасоў; гучная размова.



1. Якой пары года прысвечаны гэты верш? Чаму вы так думаеце?
2. Якія прыкметы восені адлюстроўвае ў вершы Артур Вольскі? Прачытайце.
3. Пра які «неператётны вырай» піша аўтар верша?
4. З чым пісьменнік параўноўвае школу? Знайдзіце і прачытайце гэтыя радкі верша.
5. Якой вы ўяўляеце школу ў вераснёвы ранак?
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша. Пры чытанні звяртайце ўвагу на знакі прыпынку.

# Мы за парты селі

*Мікола Маляўка*



Дзякуй, лета! Падарыла
Нам арэлі ў добры час,
Каб ляталі як на крылах,
Каб віталі птушкі нас.

Мы акрэплі, загарэлі
І за вёскай, між бяроз,
Так разгушкалі арэлі,
Што ўзляцелі да нябёс.

Доўга там былі, здалося,
І на спеў званка якраз
Апусціліся — у восень,
Апусціліся — у клас.

Мы за парты дружна селі,
Мы працуем усур'ёз,
А налета зноў арэлі
Разгайдаем да нябёс.



1. Які настрой узнік у вас падчас чытання верша?
2. За што дзеці дзякуюць лету? Якімі словамі і выразамі гэта падкрэсліваецца? Зачытайце.
3. Што рабілі вучні ўлетку?
4. Прачытайце, як яны працуюць у школе.
5. Як трэба чытаць гэты верш — гучна, хутка альбо ціха, павольна? Чаму?

# Караблік

*Уладзімір Юрэвіч*

I

«Заўтра ў школу. Усе папрыходзяць з кветкамі. А я?» — гэта думка ніяк не давала Жэню заснуць. Яшчэ звечара Жэневы аднагодкі рыхтавалі букеты. Ірвалі вяргіні, астры, гваздзікі.

У Жэні ж няма агародчыка. Ён жыве ў цэнтры пасёлка. Кветкі тут растуць вузкімі шнурочкамі ўздоўж дарожак. Ірваць гэтыя кветкі нельга. Яны ж для ўсіх: хто ні ідзе, той і любуецца.

Хлопцу не спіцца. Ён паварочваецца тварам да сцяны, жмурыць вочы…



У пакоі цемнавата. Светлы ла́пік на сцяне — гэта ад ліхтара́, што на плошчы. У гэтым лапіку відаць палічка, а на ёй — маленькі карабель. Жэня сам яго змайстраваў. Тата памог толькі выразаць з кавалка сасновай кары корпус.

«А што, калі я заўтра занясу караблік у школу, — прыходзіць новая думка, — і падару настаўніцы... Вось толькі на мачту прымацую чырвоны ветразь...»

## II

І не заўважыў Жэня, як заснуў.

— Уставай, сынок... — чуе ён раптам далёкі-далёкі матчын голас.

Тут толькі зразумеў, што ўжо раніца. Жэня саскочыў з цёплай пасцелі, хуценька памыўся, пад'еў, апрануўся. Зняў з паліцы караблік. Знайшоў кусок чырвонай тканіны, выразаў з яго ветразь, ніткай прымацаваў да мачты. Узяў у адну руку партфель, у другую — караблік і пайшоў у школу.

У класе Жэня сеў за тую парту, якую яму паказала ўчора Галіна Мікалаеўна. Партфель палажыў у парту, а караблік паставіў перад сабой.

Вось зазвінеў званок. Усе прыціхлі. У дзвярах паказалася Галіна Мікалаеўна.

— Дзень добры, дзеці! — павіталася яна і ветліва ўсміхнулася.

Дзяўчаткі і хлопчыкі кінуліся з букетамі да стала настаўніцы.

Жэня доўга не мог асмеліцца падысці са сваім караблікам да настаўніцы. Настаўніца заўважыла гэта і працягнула рукі насустрач хлопчыку.

Калі ўсе паселі за парты, настаўніца сказала, трымаючы ў руках Жэнеў падарунак:

— Дзякуй, дзеці, за кветкі. Дзякуй. Толькі навошта так многа? Трэба было кожнаму прынесці па адной кветцы, і сабраўся б вялікі букет. Дзякуй табе за караблік, Жэня. Гэта падарунак усяму класу. Ён будзе памяткай пра першы дзень у школе. Мы паставім караблік у шафу. Сваімі ветразямі ён будзе клікаць усіх вас у вялікі акіян ведаў.



Ве́тразь — парус.



1. Як рыхтаваліся дзеці да школы?
2. Чаму не спалася Жэню?
3. Што вырашыў падарыць Жэня настаўніцы?
4. Як сустракалі настаўніцу дзеці? Што яны падарылі ёй?
5. Што зрабіла настаўніца?
6. Якія словы яна сказала дзецям і Жэню?
7. Раскажыце пра свой першы дзень у школе.

## Дарога ў школу

Усё было незвычайна ў гэты вераснёўскі дзень. Зіхацела сонца над галавой. Сінела неба. Першы раз Данік ішоў з бацькам у школу. Радаваў Даніка букет кветак і новенькі ранец.




Выйшлі яны з вёскі. Тут ля дарогі стаяў абеліск. Бацька спыніўся. «Пакладзём кветкі, сынок, ім, героям нашым», — сказаў ён і расказаў Даніку пра бой партызан з фашыстамі. Гэта было 1 верасня ў вайну. Па-геройску біліся народныя мсціўцы. Многія з іх загінулі, але ўратавалі вяскоўцаў ад ворагаў. І паклаў Данік свае вяргіні да абеліска.

Зіна ўсё гэта бачыла. І на лінейцы ў школьным двары дала некалькі руж са свайго букета Даніку.

Увайшла ў клас настаўніца Вольга Пятроўна і сказала: «Першы ўрок у нас, дзеці, — урок памяці. Бярыце кветкі, і пойдзем да абеліска».

Дзеці падыходзілі да абеліска і ўскладалі кветкі, ушаноўвалі памяць герояў.

Тут сярод кветак убачыў Данік і свой букет.

*Паводле Алеся Савіцкага*



1. Што незвычайнага адбылося ў вераснёўскі дзень?
2. Пра што Даніку расказаў бацька?
3. Што зрабіў Данік? Чаму?
4. Чаму Зіна дала некалькі руж Даніку?
5. Куды адправіліся дзеці?
6. Што адчуў Данік на ўроку памяці?
7. Раскажыце, як ахоўваюцца помнікі воінам.
8. Падрыхтуйце пераказ тэксту па плане.

План

1. Незвычайны вераснёўскі ранак.
2. Расказ бацькі.
3. Усім класам да абеліска.

## Ідзе вучаніца

***Васіль Жуковіч***

Знаёмай сцяжынкай ідзе
вучаніца.
Ёй сонейка свеціць і ззяюць
крыніцы.
Ёй дрэвы гамоняць. Ідзе
вучаніца
ў Ведаў Краіну, у свет
таямніцаў.
Яна ўжо вучылася некалькі
раніц,
ёй так падабаецца з кніжкамі
ранец.

З цудоўным настроем ідзе
вучаніца:
на твары — усмешка і позірк
іскрыцца.
Як ветразі, банцікі ў мілай
дзяўчынкі,
а косы, а косы — як дзве
ручаінкі...





**Таямні́ца** — тое, што яшчэ не пазнана, не стала вядомым.



1. Чаму ў дзяўчынкі быў добры настрой? Як пра гэта сказана ў вершы?
2. З якім настроем вы ідзяце́ ў школу?
3. З чым параўноўваюцца банцікі дзяўчынкі? Косы? Зачытайце.
4. Знайдзіце ў тэксце словы, якія рыфмуюцца, і зачытайце іх.
5. Прачытайце верш хутка, у рытме хады, з пачуццём.
6. Ці падабаецца вам вучыцца? Чаму?
7. Раскажыце, што перажылі вы ў свой першы школьны дзень. Як паводзілі сябе дарослыя, калі праводзілі вас у школу? Чаму гэты дзень такі хвалюючы для ўсіх?
8. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

# Пачакаем да панядзелка

*Леанід Прокша*

Алінка прыбегла са школы і, падняўшы рукі з растапыранымі пальцамі, аб'явіла:

— Дзесяць з плюсам!..

— Малайчына, — пахваліла мама.

— А такія адзнакі ставяць? — усміхнулася бабуля. — Пакажы сшытак.

Аднак Алінка не паказала бабулі сшытак. Адвяла яе ўбок і шапнула на вуха:

— Толькі дзесяць. Плюса няма.

— А навошта ж хлусіць? Дзясятка і так, без плюса, выдатная адзнака...

Гэта было ў пятніцу. А ў нядзелю Алінка прыбегла да бабулі, ледзь не плачучы:

— Палавіна сумкі прапала.

— Зноў «дзесяць з плюсам»? — усміхнулася бабуля.

— Ды не! Пачала рабіць урокі, а кніжак, алоўкаў, пенала няма. Прапалі недзе.

— А ты добра праверыла?

— Не адзін раз. Укралі, не інакш.

— Хто ж мог украсці ў класе? Кожны мае свае кніжкі і алоўкі.

— Я так думаю: гэта Жэнька. Нездарма ён дзівіўся на мой пенал...

— Пачакай, пачакай... Можа, ты спяшалася і не ўсё паклала ў сумку пасля званка?

— Усё!.. Жэнька ўзяў — больш ніхто.

— Не кажы, калі добра не ведаеш, — не паверыла бабуля.

— Не, я ўпэўнена — ён, — настойвала Алінка.

— Пачакаем да панядзелка, а там паглядзім…

У панядзелак бабуля разам з унучкай пайшла ў школу. У раздзявалцы Алінка ўбачыла аднакласніка Віцю і не змагла прамаўчаць.

— А ў мяне палавіна сумкі прапала!

— Як гэта — палавіна сумкі? — здзівіўся Віця. — Хіба яе распілавалі?

— Не сумку распілавалі, а палавіну рэчаў забралі…



Віця падхапіў навіну, з крыкам паляцеў па калідоры:

— У Алінкі палавіну сумкі ўкралі!

— Навошта ж ты гаворыш абы-што, — папракнула ўнучку бабуля. — Пойдзем праверым тваю парту.

У класе нікога не было. Алінка падбегла да парты. Падняла вечка і развяла рукамі ад здзіўлення: «украдзеныя» рэчы ляжалі на сваім месцы.

Падышла бабуля:

— Бачыш! А ты казала — Жэнька...

А з калідора далятаў Віцеў голас:

— У Алінкі сумку ўкралі...

Алінка не ведала, куды схавацца ад сораму.



**Ве́чка** — верхняя частка парты, якая падымаецца для таго, каб зручна было пакласці рэчы, сесці.



1. З якім настроем прыбегла Алінка са школы?
2. Калі гэта адбылося?
3. Што здарылася ў нядзелю? Прачытайце.
4. Знайдзіце і прачытайце размову дзяўчынкі і бабулі, якая адбылася ў нядзелю.
5. Чаму бабуля прапанавала дзяўчынцы пачакаць да панядзелка?
6. Раскажыце, што адбылося ў панядзелак у школе.
7. Чаму Алінка не ведала, куды схавацца ад сораму?
8. Падрыхтуйцеся да чытання па ролях.

# Добрая зямля

***Паўлюк Прануза***

Ля нашай школы быў дзірван,
Зарослы муравою.
Рыдлёўкі, граблі мы ўзялі
І дружнаю сям'ёю
Разбілі ўчастак. І садок
Увосень пасадзілі.
Між дрэўцаў летам агуркі
Надзіва ўрадзілі.
— Тут працавалі дружбакі, —
Мы ад дарослых чуем.
Якая добрая зямля,
Бо мы на ёй працуем!



Дзірва́н — верхні слой глебы, густа зарослы травой, перапле-цены карэннем раслін.





1. Чым спадабаўся вам верш?
2. Што вырашылі зрабіць каля школы дзеці? Зачытайце.
3. Як вы разумееце наступныя радкі верша:

   «Якая добрая зямля,
   Бо мы на ёй працуем!»?

4. Прачытайце верш самі сабе, а потым уголас, захоўваючы пэўную інтанацыю.



## ЗАГАДАНКА



Прачытайце і адгадайце загадanку.

Унутры
Кардоннай хаткі
Спяць радком
Браты-блізняткі.

Толькі ў кожнага
Блізнятка
Свайго колеру
Апратка.

***Уладзімір Мацвеенка***

## Коска

***Васіль Хомчанка***

Захарка сеў рыхтаваць урокі. Трэба было выканаць практыкаванне: перапісаць сказы і паставіць, дзе трэба, коскі. А рабіць Захарку нічога не хацелася. Ён падпёр далонямі галаву і задумаўся. Захарка толькі што прачытаў кніжку пра прыгоды капітана карабля.

Цікавае, гераічнае жыццё ў марскіх капітанаў. Не тое, што ў яго, Захаркі. Вучы граматыку. Захарка ўздыхнуў і сказаў уголас:

— Навыдумлялі ўсялякіх прадметаў. І ўсе іх вучы. Коскі там розныя, пытальнікі...

Пачуў гэта старэйшы брат Янка і спытаў:

— А ты б што хацеў вучыць?

— Хай бы адразу вучылі на касманаўтаў, капітанаў, шафёраў. А то вучаць, дзе коскі ставіць. Хіба без іх нельга жыць?

Янка даўно ведаў, што Захарка марыць стаць капітанам далёкага плавання. Ён трохі падумаў, хітра ўсміхнуўся і сказаў:

— Кажаш, і без косак можна пражыць? Мы зараз праверым. Бяры аловак і пішы.

— Што пісаць?

— Будзем лічыць, што ты ўжо капітан карабля. Табе трэба даць пісьмовы загад сваім матросам.

— Гэта я змагу, — абрадаваўся Захарка. Такі занятак усё ж цікавей, чым урокі рабіць. — Які загад, кажы!

— Ты хворы ці паранены ў бойцы з піратамі. Ляжыш у бальніцы.

— Нічога ты не разумееш у марской справе, — паправіў Янку Захарка. — Піратаў даўно ўжо няма.

— Добра, згодзен. Ты захварэў, ляжыш у бальніцы, а карабель стаіць у гавані. У моры шторм. Я твой памочнік, чакаю ад цябе пісьмовага загаду. Ты кажаш: плыві.




— Ну і плыві.

— Не, ты напішы мне загад, — патрабаваў Янка.

Захарка рашуча падсунуў аркуш паперы, узяў аловак.

— Пісаць?

— Пішы, пішы.

І Захарка пад дыктоўку Янкі напісаў: «Плысці не дазваляю стаяць у гавані».

Прачытаў Янка і паціснуў плячыма:

— Нічога не разумею.

— Усё ясна, — сказаў упэўнена Захарка. — Я загадваю плысці.

— Не, не ясна. Ці плысці не дазваляеш і трэба стаяць, ці трэба плысці і стаяць не дазваляецца ў гавані. Не хапае коскі.

Захарка зморшчыў лоб і пачаў думаць, дзе б гэту самую коску паставіць. І паставіў пасля слоў «не дазваляю».

— Ну вось, значыць, трэба стаяць, — засмяяўся Янка.

— Я плысці дазволіў, — разгубіўся Захарка.

— Тады коска не тут павінна стаяць.

Янка закрэсліў Захаркаву коску і паставіў сваю пасля слова «плысці».

Захарка пачухаў патыліцу і падумаў, што сапраўды гэтыя коскі маюць значэнне нават і для марскіх капітанаў. Ён уздыхнуў, узяў падручнік па

граматыцы, разгарнуў сшытак і пачаў пісаць практыкаванне.



**Га́вань** — зацішнае месца каля берага для бяспечнай стаянкі караблёў.



1. Як вы думаеце, чаму так несур'ёзна ставіўся Захарка да косак і пытальнікаў?
2. Якое заданне прапанаваў Захарку яго старэйшы брат Янка?
3. Што напісаў у загадзе Захарка? Зачытайце.
4. Чаму Захарка ўзяўся за падручнік па граматыцы?
5. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
6. Намалюйце карціну словамі да той часткі тэксту, якая найбольш вам спадабалася.

## ПРЫКАЗКА

• *Дзе розумам не дойдзеш, дык у кніжцы знойдзеш.*

## Маці і Янка

***Міхась Скрыпка***

Паснедаўшы ўранку,
Гаворыць маці Янку:
— Памый, сынок, пасуду.
— Ну во — ізноў! Не буду! —
Гаворыць хлопец маме, —
Абед не за гарамі.

А там ізноў — вячэра.
Усё мый і мый без меры.
Я лепей заўтра рана
Памыю ўсё старанна.
Прагаладаўся Янка,
Калі прыбег з двара,
І ціха просіць: — Мамка!
Палуднаваць пара.
А маці кажа: — Што ты,
Дык лішнія турботы:
Абед, а там вячэра...
Усё еш ды еш без меры.
Лепш, ведаеш што, Янка,
Адкласці да сняданка,
А там і не прасі:
Адразу ўсё з'ясі.



Турбо́ты — клопаты, розныя справы.



1. Які настрой узнік у вас падчас чытання верша? Чаму?
2. Як хлопчык ставіўся да працы? Прачытайце.
3. Што адказала маці сыну, калі той прыбег з двара? Зачытайце.

4. Каго і за што вы асуджаеце ў вершы?
5. Якую параду вы далі б Янку?
6. Ці сустракаліся вам у жыцці такія выпадкі?
7. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша па ролях.

## ЗАГАДКА-ЖАРТ

***Уладзімір Мацвеенка***

Ля сцяны стаіць
Чарнушка,
Па ёй бегае
Бялушка,
За бялушкаю
Макрушка.
Шмаргане
Туды-сюды,
Змые
Белыя сляды.






1. Прачытайце загадку-жарт.
2. Якія словы дапамаглі вам адгадаць загадку-жарт? Пацвердзіце гэта прыкладамі.

## ПРЫКАЗКА

- *Хочаш добра жыць — павінен працу любіць.*



Прачытайце прыказку. Як вы яе разумееце?

# Тры браты

*Казка*

***Браты Грым***

Шмат гадоў таму жыў на свеце бацька з трыма сынамі.

Павырасталі сыны малайца́мі, адзін за аднаго лепшы.

Вось і кажа ім бацька:

— Ідзіце, дзеці, па белым свеце вандраваць, людзей паглядзіце ды якой-небудзь справе вывучыцеся. Таму з вас, хто самым лепшым ма́йстрам вернецца, я сваю хату ў спадчыну пакіну.

Падаліся браты вандраваць. Тры гады блукалі яны па чужых краях, а праз тры гады вярнуліся ўсе ў адзін дзень дамоў да бацькі.

— Добры дзень, бацька, — кажуць яны.

— Дзень добры, дзеці, — адказвае бацька. — Ну што, ці навучыліся чаму-небудзь?

— Так, — кажуць, — навучыліся.

— Чаму ж вы, дзеці, навучыліся?

— Я, — кажа малодшы сын, — галі́ць навучыўся.

— Я, — кажа сярэдні сын, — каваць навучыўся.

— А я, — сказаў старэйшы сын, — шпагаю фехтаваць навучыўся.

— Ну і добра, — кажа бацька. — Хацеў бы я паглядзець, ці спрытна вы ўмееце галіць, каваць ды фехтаваць.

А ў гэты час па полі бег заяц.



— Эх! — закрычаў малодшы сын, які галіць навучыўся. — Вось яго мне якраз і не хапала!

Схапіў ён місачку ды мыла, узбіў памазком пену, потым дагнаў зайца, на бягу намыліў яму мордачку і пагаліў абедзве шчакі.

Ды так чыста пагаліў! Не парэзаў ні разу, ніводнага валасочка не пакінуў.

— Добрая работа! — сказаў бацька. — Спрытна голіш!

І толькі ён гэта прамовіў, як на дарозе з'явілася карэта.

— Ану, — кажа сярэдні сын, які каваць навучыўся, — паглядзі, бацька, і на маё ўмельства.

Пабег сярэдні брат за карэтай, дагнаў яе, адарваў у каня на ўсім скаку ўсе чатыры падковы ды тут жа на ўсім скаку падкаваў яго нанова.

— Выдатная работа! — сказаў бацька. — Не горшая, чым у твайго брата.

Тут загаварыў і старэйшы сын:

— Дазволь, бацька, і мне паказаць сваё ўмельства!

— Што ж, — кажа бацька, — пакажы.

А якраз у гэты самы час лінуў дождж. Узяў старэйшы сын сваю шпагу ды як пачаў круціць яе ў сябе над галавой! Так хутка круціў, што ніводная кропля на яго не трапляла.

Дождж лье мацней ды мацней. Хвошча як з вядра, а старэйшы сын толькі круціць шпагай ды стаіць сухі, быццам пад дахам. Усе кроплі дажджавыя шпагай адбівае.

Убачыў гэта бацька, здзівіўся ды сказаў дзецям:

— Усе вы выдатныя майстры — не ведаю я, каму з вас хату пакінуць. Жывіце разам усе.

Згадзіліся сыны, ды гэтак з таго часу разам і жывуць.



**Кава́ць** — апрацоўваць метал ударамі молата.
**Галі́ць** — зразаць брытвай валасы; брыць.



1. Чым спадабаўся вам твор? Якія яшчэ казкі братоў Грым вы ведаеце?
2. Куды выправіў сваіх сыноў бацька? Якому майстэрству яны навучыліся? Зачытайце.

3. Хто з братоў, на ваш погляд, вярнуўся лепшым майстрам?
4. Што сказаў бацька сынам, ацаніўшы іх майстэрства? Зачытайце.
5. Выберыце з тэксту ўрывак, які вам хацелася б прачытаць па ролях.
6. Падрыхтуйце пераказ казкі блізка да тэксту.

## Пра Янку і гулянку

*Мікола Хведаровіч*

Рана-рана — на світанку —
Маці доўга будзіць Янку:
— Уставай хутчэй, сынок,
Не спазніся на ўрок.
На стале стаіць сняданак,
Пазірае ў вокны ранак.
Маці будзіць, маці кліча,
Сын спрасонку штосьць
мармыча,
Смачна, доўга пазяхае,
Твар пад коўдраю хавае:
Прытварыўся — захварэў,
Прытаіўся — анямеў.

Ён жа ўчора па абедзе
Прападаў з сябрамі недзе,
Да змяркання прагалёкаў
І не браўся за ўрокі.



**Галёкаць** — моцна крычаць, пераклікаючыся ў лесе.



1. Чаму Янка не хацеў ісці ў школу? Як пра гэта сказана ў вершы?
2. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
3. Патлумачце сэнс прыказкі «Навуку за плячыма не носяць».
4. Якія прыказкі пра вучобу вы яшчэ ведаеце? Раскажыце.

## Музычная Нота

*Казка*

***Сяргей Тарасаў***

Жыў на свеце трубач. Аднойчы, прыйшоўшы дадому, паставіў ён сваю трубу на акно. Акно было расчынена, а на вуліцы гуляў лёгкі Ветрык. Убачыў Ветрык на акне трубу, зацікавіўся: «Што гэта такое? У коміны вялікіх заводаў я дзьмуў, у коміны дамоў таксама, а вось у такую трубу — не». Разагнаўся Ветрык, сабраў усю сваю моц і дзьмухнуў. З трубы выскачыла Нота і паляцела ў свет.

Ляцела, ляцела і прыляцела да дома, у якім жыў чалавек, што піша му́зыку, — кампазітар. Заляцела Нота ў фортку. Бачыць: ляжыць на раялі разлінаваны сшытак, а ў ім — поўна нот. І наша Нота села паміж імі.

Пачаў кампазітар іграць.

— До-фа-мі-рэ-соль-сі-до! «Ля!» Што такое? — здзівіўся кампазітар. — Адкуль узялася гэта нота? Паспрабуем яшчэ раз: соль-сі-до! «Ля!» Не, яна не павінна тут быць! Вось жа стаіць нота «рэ». До-фа-мі-рэ. Соль-сі-до-рэ! Зараз мы гэтае «ля» выкраслім.

Спалохалася Нота і хуценька выскачыла ў акно.

— Ух ты! — уздыхнула з палёгкай. — Гэтак сапраўды можна прапасці.

Ляціць Нота далей. Раптам чуе — музыка гучыць. Агледзелася, а гэта — тэатр. Заляцела Нота ў тэатр. А там на сцэне аркестр. А нот над ім —



што машкары́. Бачыць — наперад выйшаў спявак з доўгай барадою і пачаў спяваць басам.

«Вось каму я, відаць, патрэбна», — падумала Нота.

А спявак браў голасам усё вышэй і вышэй:

— А-а-а! А-а-а! — і раптам нізкае: — У-у-у!

Ад нечаканасці ён змоўк. Збянтэжыўся і аркестр. Спявак здзіўлена азірнуўся, не разумеючы, як гэта ў яго атрымалася.

Спалохалася Нота: і тут яна не на сваім месцы. І, каб ніхто не заўважыў, — шусь у акно!

Ляцела і думала, што трэба, відаць, вяртацца дадому, да свайго музыкі. Але нечакана апынулася каля школьнага акна. Зазірнула туды. А там, ля чорнай разлінаванай дошкі, стаіць дзяўчынка і плача, а дошка спісана нотамі.

— У цябе ўсё добра, Аленка, — кажа настаўніца, — але ў другім такце не хапае адной ноткі. Падумай, не хвалюйся…

Пачула гэта Нота, прыгледзелася да дошкі. І сапраўды, у адным месцы зверху ёсць нота і ўнізе ёсць, а пасярэдзіне — пуста. Не доўга думаючы, скокнула яна на гэта месца і сцішылася.

— Не плач, Аленка, — кажа настаўніца. — Паглядзі на дошку ўважліва… Але што гэта? — здзівілася яна і надзела акуляры. — Тут сапраўды ўсё правільна.

— Вось дзе я патрэбна! — сказала Нота і засталася ў школе.



**Арке́стр** — сукупнасць музычных інструментаў для выканання музычных твораў; калектыў музыкантаў, якія разам выконваюць твор на розных інструментах.
**Бас** — самы нізкі мужчынскі голас.
**Збянтэ́жыўся** — прыйшоў у замяшанне, разгубіўся.



1. Пра якія прыгоды музычнай Ноты гаворыцца ў казцы?
2. Чаму музычная Нота доўга не магла знайсці сваё месца?
3. Падзяліце казку на часткі згодна з планам.
4. Прачытайце казку яшчэ раз і перакажыце яе па плане.

План

1. Ветрык і Нота.
2. Нота і кампазітар.
3. Нота ў тэатры.
4. Нота ў школе.

## Крыўда парты

***Мар'ян Дукса***

«У класе чысціня,
А ты
Падводзіш гэтак...» —
Я слухаю штодня
Папрокі ад суседак.

«І ў зацені вугла
Твой выгляд
Смехуварты —
Зноў смеццем зарасла», —
Кругом злуюцца парты.
А што ў маім нутры?
Рагаткі,
Прамакаткі...
Збярэцца два вядры,
Як скончацца заняткі.
Чаго не знойдзеш тут —
Нібы ў дупле вавёркі.
Вось тут —
Запісак жмут,
А тут —
Агрызкаў горка.
Парваны сшытак —
Вунь!
А вунь —
Батона трошкі...
Далей руку пасунь —
Запанава́лі крошкі!
Ды ці ж мая віна,
Што я не ўзор культуры,
Не парта —
Скрынка я
Для ўсёй макулатуры.



За́цень — месца, зацененае чым-небудзь ад прамянёў сонца.



1. Якія папрокі штодня слухала парта ад сваіх суседак?
2. За што і на каго крыўдавала парта? Зачытайце.
3. Які сэнс уклаў аўтар у радкі:

   «Не парта —
   Скрынка я
   Для ўсёй макулатуры»?

4. Прачытайце верш, перадаючы голасам крыўду парты.

## Вельмі важнае пісьмо

***Даір Слаўковіч***

### I

Мама, як заўсёды, спяшаецца на працу, бо абедзенны перапынак у яе канчаецца. А Шурыку, наадварот, спяшацца няма куды.

— Не замыкай мяне, — просіць Шурык, хоць ведае, што дарма: мама ўсё роўна павесіць на дзверы замок.

— Цябе не замкні, то я за дзверы — і ты ўслед.

— Сядзі як арыштант які...

— Не арыштант, а хворы.

— Ма-а-мка...

— І не прасі. Ці даўно тэмпература высокая была? Забыўся, як гарчычнікі ставілі? Вучы ўрокі, каб не адстаць ад класа.

— Я ж не ведаю, што задалі.

— А ты вазьмі кніжку і чытай па парадку.

Сумна хлопцу. Раней хоць Сяргей заходзіў.

А цяпер яны пасварыліся...

«Тады Сяргей быў вінаваты, — успамінае Шурык. — Сам вінаваты — і не прыходзіць. Я б да яго прыйшоў, каб ён захварэў. Ці хоць пісьмо напісаў бы...»

Шурык уздыхае і доўга глядзіць праз акно на пустую вуліцу. Пасля бярэ сшытак у клетачку, вырывае з яго ліст: «Напішу сам, калі ён такі нездагадлівы...»

## II

Новенькай шарыкавай ручкай вывеў першы радок: «Пісьмо Чыкіну Сяргею».

Падумаў і дадаў: «Вельмі важнае пісьмо». Схіліў галаву набок і напісаў далей:

«Сяргей, прыходзь да мяне мірыцца. Я б сам да цябе прыйшоў, ды замкнёны сяджу. Ты прыходзь. Адамкні мяне, ключ пад ганкам, у пустой бляшанцы. Будзем з табой гуляць. А то на вуліцу мама не пускае, кажа, што хвароба не ўся выйшла. А за тое, што цябе тады з класа выштурхнуў, ты не злуйся. Не трэба было табе Маню дражніць. Ты смяяўся, а Маня плакала...»

Гатовае пісьмо Шурык падпісаў: «Аляксандр», заклеіў і напісаў адрас.

Потым сеў у кухні каля акна, каб відаць была паштовая скрынка, і пачаў чакаць. Бо ведаў, што вось-вось газеты прынясуць.

## III

І праўда, хутка паказалася паштальёнка. Яна апусціла газеты ў паштовую скрынку і хацела пайсці з двара, але Шурык забарабаніў у шыбу. Здзівілася паштальёнка, затрымалася. А Шурык фортку адчыніў і просіць:

— Цёцечка, калі ласка, аддайце гэта пісьмо Чыкіну Сяргею. Вунь іхні дом, ашаляваны.

— Пісьмо? — яшчэ больш здзівілася паштальёнка.

— Ага. Я сам не магу, бо замкнёны. Паштальёнка ўсміхнулася і працягнула руку да форткі.

— Ну, давай тваё пісьмо, аднясу.

А праз кароткі час бразнулі дзверы ў сенцах і ў пакой увайшоў Сяргей.

— Атрымаў пісьмо? — радасна кінуўся да яго Шурык.

— А то як жа!

— А гэта навошта прынёс? — паказаў Шурык на тоўсты партфель, які Сяргей паклаў на стол.



— Як навошта? Будзем урокі вучыць.

Шурык адразу пасмутнеў:

— Я ж гуляць з табою хацеў. Во, самалёты ў мяне, караблікі. Сам зрабіў.

Сяргей паглядзеў на канапу і не ўтрымаўся, падышоў бліжэй:

— Ух ты! Цэлы флот! — выгукнуў ён.

— Дык давай пагуляем! Мы не доўга. А пасля будзем вучыць.

— Не, няможна, — цвёрда сказаў Сяргей.

— Вунь ты які! Каб ведаў, дык і пісьма не пасылаў бы...

— А я ўсё роўна прыйшоў бы. Задачкі ў нас новыя. Без тлумачэння не разбярэш.

— Ну, калі так, давай рашаць, — згадзіўся Шурык і пайшоў па кніжкі. — А гуляць, і праўда, пасля будзем.



Ашалява́ны — абшыты дошкамі.



1. Чаму мама не дазваляла Шурыку выходзіць з дому? Прачытайце.
2. Што вырашыў зрабіць хлопчык? Знайдзіце і прачытайце яго пісьмо Сяргею.
3. Якая размова адбылася паміж хлопчыкамі, калі Сяргей прыйшоў да Шурыка? Прачытайце.
4*. Прачытайце апавяданне па частках. Намалюйце словамі карціны да кожнай часткі апавядання.
5. Падрыхтуйце падрабязны пераказ адной з частак (на выбар).

# Мой сябра

*Адам Русак*




З ім я ў працы, адпачынку,
на ўроку, перапынку.

З ім я ў полі, з ім у школе,
з ім не сумна мне ніколі.

З ім вандрую я па свеце,
з ім лятаю ў ракеце.

Чаго сам не адгадаю,
у яго я запытаю.

З ім я гутарку вяду,
з ім нідзе не прападу.

— Хто ж ён гэтакі, скажы?
Нам яго ты пакажы.

— Нездагадлівы ты, Мішка...
Сябра мой, вось бачыш —
кніжка.



1. Які настрой перададзены ў вершы?
2. Хто можа так расказаць пра кніжку?
3. Якімі цудоўнымі якасцямі валодае кніжка?
4. Прачытайце, як аўтар называе кніжку. Чаму?

5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша. Падумайце, як вы будзеце чытаць: хутка, павольна, напеўна. Дзе зробіце паўзы і прыпынкі пры чытанні?
6. Прачытайце верш уголас, перадаючы свае адносіны да прачытанага.
7. Раскажыце пра свае любімыя кніжкі.
8. Вывучыце верш на памяць.

## ПРЫКАЗКА

- *З кнігай дружы, прачытай і іншым раскажы.*

# Стасікава кладка

***Міхась Даніленка***

У Стасіка захварэла маці. У яе балела горла. Яна ляжала ў ложку і цяжка дыхала. Стасік сядзеў каля акна і чакаў доктара, каб ён хутчэй вылечыў маму.

На двары ішоў дождж. Насупраць пад’езда была вялікая лужына. Па ёй скакалі бурбалкі.

З парасонам і з вялікай сумкай выйшла з дому бабулька Настасся Іванаўна — мабыць, сабра́лася ісці ў магазін. Яна прыпынілася і думала, як абысці лужыну.

Ступіла раз, другі, паслізнулася і ледзь не ўпала. Але ўсё ж неяк абышла.

З вуліцы на матацыкле прыехаў Жора. Добра Жору: не страшныя яму ніякія лужыны…



«А як жа да нас доктар пройдзе? — думаў Стасік. — І Настасся Іванаўна як будзе вяртацца? Замочаць ногі, таксама захварэюць. Як мама».

Хлопчык злез з падаконніка, ціха выйшаў у прыхожую, апрануў дажджавік з капюшонам.

Доўга шукаў ён на двары дошку. Знайшоў, прыцягнуў да свайго пад'езда і паклаў на дзве цагліны ўпоперак лужыны.

Пасля праз акно Стасік бачыў, як паціху клыпала з магазіна Настасся Іванаўна. Каля кладкі яна на момант спынілася, як бы штосьці ўспомніла, потым борздзенька пайшла ў пад'езд.

Нарэшце прыйшоў доктар.

— Вось мы зараз тэмпературу змераем, парашкі выпішам, — бадзёра сказаў ён, — і не дадзім хварэць тваёй маме.

Доктар выпісаў рэцэпт, развітаўся. Стасік наглядаў, як ён хутка выйшаў з пад'езда, прабег па кладцы лужыну і заспяшаўся ў суседні дом — да другіх хворых.

Стасікава кладка ўсім спадабалася.



Бо́рздзенька — хутка, жвава.



1. Якую добрую справу зрабіў Стасік для людзей?
2. Як характарызуе хлопчыка гэты ўчынак?
3. Як вы думаеце, чаму Стасікава кладка ўсім спадабалася?
4. Прачытайце апавяданне самастойна і падрыхтуйцеся пераказаць яго па плане.

План

1. Маці захварэла.
2. Лужына.
3. Кладка.
4. Доктар.
5. На карысць людзям.

## Хлеб

*Мікалай Рубцоў*

У дарогу ўзяў з сабою сыр, пячэнне,
Для прысмаку прыхапіў міндаль.
Хлеб не ўзяў, бо з ім адно мучэнне
Валачыся ў гэтакую даль.
Але бабка ўцiснула акраец,
Бабка ведала цяжа́ры ўсе:
— Слухай, што старыя людзі ра́яць, —
Хлеб заўсёды сам сябе нясе...



**Цяжа́р** — цяжкая ноша.



1. Як паэт Мікалай Рубцоў ставіцца да хлеба?
2. Выявіце галоўныя радкі верша. Зачытайце іх.
3. Паразважайце, чаму «хлеб заўсёды сам сябе нясе». Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## ЗАГАДКА



Прачытайце і адгадайце загадку. Паспрабуйце скласці сваю загадку.

***Анатоль Клышка***



З белай зрабілася бураю.
У печ без скуры пайшла,
а выйшла — са скураю.

## Аўтамабільчык, які навучыўся лятаць

*Казка*

***Адальфіна Касіо***

Ездзіў Аўтамабільчык. Ён быў вельмі дапытлівы і вынаходлівы. Убачыўшы дзяцей, якія крочылі на дзвюх нагах, рабіў тое ж самае. Прыпыняўся, а потым бег на задніх колах.

Маці, Грузавая Машына чырвонага колеру, часта ўшчувала:

— Сыночак, што ты робіш? Усе аўтамабільчыкі ездзяць на чатырох колах. Ты ж упадзеш!

Але непаслухмяны Аўтамабільчык працягваў бегаць на задніх колах. Аднойчы ён пахіснуўся і ўпаў з моста ў рэчку. Думаеце, спалохаўся? Не, пачаў весела плёскацца ў вадзе. І тут яго натхніла думка: трэба навучыцца плаваць.

З таго часу кожны раз, узбегшы на мост, Аўтамабільчык кідаўся ў ваду і даваў нырца. Аж неяк ён скочыў у вельмі глыбокую рэчку і... пайшоў на дно. Толькі пад'ёмны кран змог выратаваць яго. Во калі страху нацярпеўся!

— Бачыш, што здараецца з неслухамі, — папракнула маці. — Ездзі на чатырох колах, як усе аўтамабільчыкі!..

Некалькі дзён запар Аўтамабільчык пакорліва бегаў за маці. «Нарэшце, здаецца, засвоіў урок», — цешылася Грузавая Машына. Ды нядоўга. Аднаго разу над самай зямлёй імкліва праляцеў ястраб. Аўтамабільчык прыпыніўся, падзівіўся на палёт птушкі і раптам сказаў:

— Мама, я хачу навучыцца лятаць!

— Ты што, з глузду з'ехаў? У цябе ж няма крылаў. Не тлумі галавы!

Аднак Аўтамабільчык не ўціхаміўся: ён засумаваў і пачаў плакаць. А калі Аўтамабільчык плача, то бензінавыя слёзы цякуць праз пярэднія фары.

Гаспадар Аўтамабільчыка занепакоіўся: чаму ён траціць столькі бензіну? Запраўляе бак, а праз гадзіну ў ім ні кроплі. Расказаў пра гэта Грузавой Машыне, і тая прызналася:

— Аўтамабільчык плача, бо хоча лятаць.

— Толькі з-за гэтага? — здзівіўся гаспадар. — Чаму ж вы раней не папярэдзілі мяне?

Неўзабаве ён прывёў механіка і цесляра.

Яны зрабілі крылы і прапелер. І Аўтамабільчыкператварыўся ў маленькі самалёт. Ён мог лятаць, ганяцца за галубамі ў нябёсах, гуляць з імі сярод воблакаў у хованкі.

Надвячоркам Аўтамабільчык вяртаўся ў гараж, да сваёй маці. З захапленнем расказваў ёй, як цудоўна лятаць над зямлёй, узнімацца вышэй за вясёлку, дыхаць чыстым паветрам.

— Бачыш, мама, — радаваўся ён. — Я не зведаў бы гэтага, каб згадзіўся быць проста аўтамабільчыкам, як усе астатнія.

І маці, Грузавая Машына, цешылася: яе Аўтамабільчык — шчаслівы.

---



Даць нырца́ — нырнуць, скокнуць у ваду з галавой.

За́пар — непасрэдна адзін за адным, без пропуску.

Ушчува́ць — дакараць, папракаць за штонебудзь.

Цясля́р — рабочы, які займаецца апрацоўкай драўніны.



1. Якім быў аўтамабільчык?
2. Што аднойчы здарылася з ім? Зачытайце.
3. Як аўтамабільчык ператварыўся ў маленькі самалёт?
4. Пра што расказваў аўтамабільчык сваёй маці? З якой нагоды ён радаваўся?
5. Чаму цешылася машына?
6. Прачытайце казку яшчэ раз і зрабіце малюнак да той часткі тэксту, якая вам найбольш спадабалася.
7. Раскажыце, кім вы хочаце стаць.

## Тараскавы турботы

***Уладзімір Юрэвіч***

У Тараскі бабуля такая, што без работы не сядзіць ні хвіліны. Вельмі чысціню любіць. Усё з анучкай у руках ходзіць — то крэслы пратрэ, то лісты вазонаў, то шыбы ў вокнах... Але аднойчы моцна забалелі ў бабулі ногі. Урач сказала менш хадзіць, бо можна наклікаць бяду.

Надыходзіла свята. А Тараскава мама якраз паехала ў камандзіроўку.

«Нічога, — падумала бабуля, — прыбраць у кватэры ўнучак паможа. Ён жа ўжо ў трэці клас ходзіць ды такія самалёты, самакаты ладзіць. Дзіва проста. Нездарма бацька кажа: на ўсе рукі майстар».

А гэты майстар сказаў бабулі:

— Не. З анучкай — немужчынская работа. Няма мне часу.

Як яго ні ўшчувала бабуля, нічога не выйшла. Мінула два дні. Тараска прыходзіць са школы сумны нейкі, але надта ўжо ласкавы. Нібы хто падмяніў яго. Бабулі стала крыху лепш, і яна зноў тупала, наводзіла чысціню.

— Ты пасядзі, пасядзі, бабуля, — просіць Тараска. — Я сам пасатру ўсё: і крэслы, і вазоны, і люстра... Вось толькі пакажы мне, як гэта анучку выкручваюць.

— Анучку выкручваць, Тараска, невялікая навука... Толькі ж гэта немужчынская работа, — усміхаецца бабуля.

— Ну, не кажы, бабуля. Сёння мы прыбіралі клас, і настаўніца сароміла мяне.

— За што?

— За тое, што я зусім не ўмею анучку ў руках трымаць.

— Як гэта не ўмееш?

— Вельмі проста. Мы ўсім класам мылі парты, праціралі вокны. Узяў і я анучку, намачыў у вядры з вадой. Трымаю двума пальцамі, а выкруціць баюся. Потым адважыўся, сціснуў у кулак, а пырскі на сцяну паляцелі. Тады настаўніца і спыталася, ці памагаў я калі прыбіраць дома.

— Ну і што ж ты сказаў?

— Што мне было сказаць, бабуля? А Вольга Пятроўна ўзяла з рук анучку, неяк перакрыжавала рукі, пакруціла, і тая анучка перад маімі вачыма пяцёркай стала.

— Якой гэта пяцёркай? — пытаецца бабуля.

— Ну, падобная на лічбу пяць вісіць у руцэ настаўніцы.

— А сам ты не спрабаваў больш выкручваць?

— Чаму не? Выцер некалькі парт. Анучка сухая стала. Тады я падышоў да вядра, памачыў анучку ў вадзе, выцягнуў, пакруціў з усяе сілы, але пяцёрка не атрымалася.

— Пастаў сюды вядзерца, — кажа бабуля, седзячы на канапе. — Цяпер бяры анучу адной рукой за гэты канец, а другую павярні далонькай наверх. Бярыся вось гэтак, крыж-накрыж, і паварочвай адну да сябе, другую — ад сябе. Во... Круці, круці...

— Рукі ўжо баляць, — просіцца Тараска.



— Ну, адпусці цяпер, бачыш?

— І ў мяне пяцёрка? — радуецца Тараска.

Тараска выціраў пыл, дзе толькі мог дастаць. Яму так спадабалася выкручваць анучку, што ён усё часцей і часцей падбягаў да вядзерца. І ўсё хваліўся бабулі:

— Глядзі, як слухаецца мяне анучка.

А бабуля цешылася з унука:

— Малайчына, Тараска. Вось бачыш, умелыя рукі ніколі не баляць.



1. Якія пачуцці выклікала ў вас гэта апавяданне?
2. Што здарылася з Тараскам у школе?
3. Ці лічыў Тараска прыборку ў кватэры мужчынскай работай? Калі ён перамяніў свае адносіны да гэтай працы? Чаму?
4. Як вучыла працаваць бабуля ўнука? Што з гэтага атрымалася?
5. Якім паказаны ў творы Тараска? Што можна сказаць пра яго?
6. У якім сказе тэксту заключана галоўная думка? Зачытайце гэты сказ.
7. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання тэксту па ролях.

## ПРЫКАЗКА



Прачытайце прыказку. Растлумачце яе сэнс.

- *Хто не ляніцца, той справай сваёй ганарыцца.*

# Кім ужо не быў я толькі!

*Сяргей Пагарэлаўскі*

Кім ужо не быў я толькі!
Сто імён змяніў — не меней:
гэта ж я адразу
ШКОЛЬНІК,
СЫН,
УНУЧАК,
БРАТ,
ПЛЯМЕННІК.
Для Міколкі я — ДРУЖБАК
і ТАВАРЫШ, гэта так.



А пайшоў у гастраном —
стаўся ўраз ПАКУПНІКОМ,
ва ўрача быў ПАЦЫЕНТАМ,
у цырульніка — КЛІЕНТАМ,
у трамваі — ПАСАЖЫРАМ
(быў і ЗАЙЦАМ, калі шчыра),
злез з трамвая без прыгод —
хто цяпер я?
ПЕШАХОД.
Дома я за кніжку ўзяўся,
ЧЫТАЧОМ пабыць сабраўся —
паштальён тут акурат:
— Распішыся, АДРАСАТ.
Сеўшы ў крэсла праз гадзіну,
стаўся ТЭЛЕГЛЕДАЧОМ.
Злазіў спрытна ў халадзільнік
і зрабіўся ЕДАКОМ.
Быў ТУРЫСТАМ
і пры гэтым
РЫБАЛОВАМ,
РЫБАЕДАМ,
ЗАПЯВАЛАМ,
ГРЫБНІКОМ
і ўвесь час
ВЕСЕЛУНОМ.



1. Чаму адзін і той жа хлопчык можа па-рознаму называцца? Як пра гэта гаворыцца ў вершы?
2. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша. Падумайце, у якім тэмпе трэба яго чытаць, якія пачуцці перадаць, дзе зрабіць паўзы.





1. Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні:
   1) Дзе адбываецца дзеянне?
   2) На якім уроку прысутнічаюць дзеці?
   3) Каго выклікала да дошкі настаўніца?
   4) Што робяць астатнія вучні ў класе?
2. Складзіце невялікае апавяданне па малюнку. Прыдумайце загаловак.

## Рассеяныя

*Сцэнка*

***Васіль Жуковіч***

Дзеючыя асобы

П а с т у х.

Д р ы в а с е к.

На сцэне — ускраек лесу. Сустрэча двух знаёмых — Д р ы в а с е к а і П а с т у х а. У Дрывасека за поясам сякера, у Пастуха на носе акуляры.

П а с т у х

Ну, што сёння, Дрывасек, рабіў?

Д р ы в а с е к

Лынды, вядома, не біў, ды сякеру згубіў.
Вось хаджу ўсё, блукаю —
сякеру шукаю.

П а с т у х

За поясам яна ў цябе, дзівак!

Д р ы в а с е к *(глядзіць на сякеру, кратае яе рукамі ды ўсміхаецца)*

Ну, дзякуй, дзякуй, дружа!



**П а с т у х**

Я рады, што памог табе. Аднак
рассеяны ж ты дужа!..

**Д р ы в а с е к**

А ты што робіш, дарагі?
Ці не туга ў цябе на твары?

**П а с т у х**

Ды вось ужо я дзень другі
шукаю акуляры.
Мо дзе кароўка пад кустом
раструшчыла іх капытом?

**Д р ы в а с е к**

Хіба жартуеш? Ты ж іх носіш
на ўласным носе!

Пастух здымае акуляры і, як заварожаны, трымае іх перад вачыма.

**П а с т у х**

Якая радасць, Дрывасек!..
Які ты добры чалавек!

**Д р ы в а с е к і П а с т у х**

Так і знайшліся нашы рэчы.
Як мы сустрэліся дарэчы!



Туга́ — смутак, маркота, журба.



1. Назавіце галоўных герояў сцэнкі.
2. Прачытайце твор па ролях.
3. Падрыхтуйцеся да інсцэніроўкі твора.

## ПРЫКАЗКІ

- *Навука не мучыць, а толькі вучыць.*
- *Бачыць вока далёка, а розум яшчэ далей.*
- *Хто без навукі, той як бязрукі.*
- *Вучыцца ніколі не позна.*
- *Кнігі чытаеш — свет адкрываеш.*



1. Прачытайце прыказкі. Растлумачце іх сэнс.
2. Падумайце, у якіх выпадках можна так сказаць.

## СКОРАГАВОРКІ

### Крот

***Васіль Вітка***

Хадзіў певень па падворку  
І знайшоў скорагаворку:  
Падрыў крот  
Крывы плот,  
Рые норку  
Ў агарод.  
Трэ пастрашыць недарэку:  
— Ку-ка-рэ-ку! Ку-ка-рэ-ку!  
Затаіўся ў норцы крот —  
Як зямлі набраў у рот.



# Сваячок

*Ніна Галіноўская*

Чайка човен пачыняла
І на ўвесь прычал крычала:
— Сваячок мой шчупачок,
Дай дошчачку і цвічок.





* * *

На бярозе рак,
У рачулцы грак,
Пад канапай крот,
А ў норцы кот.







1. Прачытайце скорагаворкі спачатку павольна, а потым хутка.
2. Якія скорагаворкі вы ведаеце? Раскажыце іх.
3. Вывучыце на памяць адну скорагаворку (на выбар).

## СМЯШЫНКА

# Як зваць?

*Авяр'ян Дзеружынскі*

— Хлопчык, зваць цябе як?
— Зваць, як тату майго — так.
— Як зваць тату,
Скажы мне?
— Гэтак жа,
Як і мяне.
— А як есці запрашаць,
Як жа клікаць, называць?
— Калі есці захачу,
Сам я першы прылячу.



1. Прачытайце смяшынку.
2. Падумайце, ці на ўсе пытанні ў вас ёсць адказы.
3. Разыграйце смяшынку па ролях.



## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ ПА РАЗДЗЕЛЕ «У ВЕДАЎ КРАІНУ, У СВЕТ ТАЯМНІЦАЎ...»

1. Успомніце, з якіх твораў узяты вершаваныя радкі:
   а) «Знаёмай сцяжынкай ідзе вучаніца»;
   б) «Апусціліся — у восень,
   Апусціліся — у клас»;
   в) «Якая добрая зямля,
   Бо мы на ёй працуем!».

2. Успомніце, з якіх твораў узяты ўрыўкі:

а) «Першы ўрок у нас, дзеці, — урок памяці. Бярыце кветкі, і пойдзем да абеліска»;

б) «Слухай, што старыя людзі раяць, —
Хлеб заўсёды сам сябе нясе...».

в) «Малайчына, Тараска. Вось бачыш, умелыя рукі ніколі не баляць».

3. У якіх творах гэтага раздзела расказваецца пра працавітасць, жаданне вучыцца? Назавіце іх. Зачытайце ўрыўкі з гэтых твораў.

4. Прачытайце верш з гэтага раздзела, які найбольш вам спадабаўся.

5. Якія яшчэ ілюстрацыі вы хацелі б намаляваць да твора Васіля Жуковіча «Рассеяныя»? Знайдзіце гэтыя месцы ў тэксце і зачытайце.

6. Складзіце невялікае апавяданне з такім пачаткам: «У класе сяброўкі загадвалі адна адной загадкі. А Валя нават і сама прыдумала загадку...».

7. Успомніце творы, да якіх зроблены гэтыя малюнкі. Назавіце аўтараў, якія напісалі гэтыя творы.






# ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ ЗАЛАТАЯ СЕЕ РАДАСЦЬ НА ЗЯМЛІ...



## Пачыналася восень

***Іван Навуменка***

Пачыналася восень. Яшчэ горача свяціла сонца. Зусім па-летняму дрыжала сіняватая смуга над пыльнай дарогай. У кустах крушыны свісталі вясёлыя дразды. Буяла яшчэ на лугавінах зялёная атава. У палісаднічках наперагонкі хваліліся сваёй прыгажосцю жоўтыя вяргіні і астры. Але ўсеўладная восень неадступна цікавала за гэтымі апошнімі праявамі летняга жыцця. Яна ўжо заслала суцэльным залацістым абрусам палі збажыны. Злёгку рассерабрыла шаты разгалістых прыдарожных бяроз. Паветра напаіла той празрыстасцю і чысцінёй, якая бывае толькі цёплай лагоднай восенню.

Высока ў сінім бязвоблачным небе плыве яркае сонца. Шчодра лье на зямлю сваю цеплыню і святло. Сагрэтая яго ласкай зямля адказвае буяннем жыцця.

Цёпламу яснаму дню радуецца кожная жывая істота. Над маёй галавой, на бярозе, цінькаюць сініцы. Прабуюць моц сваіх крылаў прыгожыя ластаўкі. На маленькім лапіку зямлі ідуць свае клопаты і турботы. Некуды спяшаецца цягавітая мурашка. Уверх па сцяблінцы паўзе спакойная божая кароўка.

Над Прыпяццю сінее лес. Адтуль нясе густым водарам, сатканым з пахаў хвоі, прэлай зямлі, грыбоў і багуну. Шырокая лугавіна прымешвае свайго да гэтай багатай і разнастайнай гамы: пахне аерам, мурагом, салодкай медуніцай.

Я думаю пра восень. Мабыць, памыляюцца тыя пісьменнікі, якія бачаць у восені толькі заміранне жыцця. Здаецца, усё якраз наадварот.

Жыццё ў гэтую пару не замірае, а нараджаецца. Яно проста стаіць перад пачаткам новага, яшчэ шырэйшага круга. Бяроза адшумела зялёным лісцем і паслала ў свет, можа, мільёны новых бярозак, схаваных у яе лятучым насенні.

Дайце гэтаму насенню пульхную глебу, трошкі святла і цеплыні — і народзіцца новы бярозавы гай...

Восень — гэта ростані на вечных дарогах старога і новага жыцця. Няхай прыгрэе сонца, і тады за

цёплым летам адразу пачнецца вясна, без ніякай восені і зімы, без ніякага перапынку. Хіба ўвосень не расцвітае прыгажуня яблынька, зведзеная ў зман здрадлівай ласкай бабінага лета? Нездарма, відаць, нашы далёкія продкі кожны новы год жыцця пачыналі з восені...



**Буя́ць** — бурна расці, пышна красаваць.
**Ата́ва** — трава, што вырасла ў той жа год на месцы скошанай.
**Ша́ты** — покрыва з лісця.
**Багу́н** — балотная расліна з рэзкім дурманным пахам.
**Ро́стань** — месца перакрыжавання дзвюх або некалькіх дарог.



1. Якія прыкметы восені апісвае Іван Навуменка? Знайдзіце і зачытайце тыя месцы ў тэксце, у якіх найбольш яскрава гэтыя прыкметы апісаны.
2. Ці падабаецца аўтару восень? Чаму вы так думаеце?
3. Што заўважылі вы ў прыродзе на пачатку восені?
4. Чым восень адрозніваецца ад лета?
5. Падзяліце тэкст на часткі. Прыдумайце ім загалоўкі.
6. Падбярыце іншы загаловак да тэксту.

## ПРЫКАЗКА

- *Увосень на дварэ пагод сем: сее, вее, круціць, муціць і рве, і лье, і знізу мяце.*

# Надыход восені

***Пятрусь Броўка***

Вось і лета сышло,
Адспявалі калоссі,
Цяжка нам заўважаць,
Як з’яўляецца восень.

Непрыкметна зусім
Прыплыве павуцінкай,
Гляне жоўтым лістком
З-пад зялёнай хусцінкі.

Зачаруе агнём
Маладзенькай рабіны,
На адлёце крылом
Памахае буслiным.

А пасля,
А пасля
Ліст апошні сарвецца...
Ды не знаю, чаму
Ты мне, восень, па сэрцу!





1. З якім пачуццём Пятрусь Броўка піша пра восень? Якія радкі верша пра гэта гавораць? Зачытайце.
2. Якія прыкметы восені апісвае паэт? Якія словы і выразы дапамагаюць убачыць восень так, быццам яна жывая істота?
3. Як вы разумееце радкі верша:

   «Ды не знаю, чаму
   Ты мне, восень, па сэрцу!»?

4. Якой для вас з'яўляецца восень? Якія словы з тэксту вы маглі б узяць, каб перадаць свае пачуцці да роднай прыроды? Прачытайце.
5. Калі і дзе вы назіралі за роднай прыродай увосень? Што асабліва запомнілася вам? Раскажыце.
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Пастарайцеся перадаць голасам пачуццё любові да роднай прыроды.

## Восень

***Якуб Колас***

Яшчэ тыдзень назад на лузе калыхаліся высокія зялёныя травы. Над кветкамі з вясёлымі песнямі лёталі работніцы пчолкі. Цяпер там пуста. Адны толькі стагі параскідаліся па грудоўках. Вырасла маладзенькая травіца-атава. Буслы пазляталі з гнёздаў і ходзяць па лузе. Апусцелі палі. Не вядзе гутаркі ціхі вецер з каласамі збожжа. Не трапечуцца ў небе над полем жаваронкі з песнямі. Прайшла вясёлая пара лета. Восень усюды накладвае

свой след, сваю руку. Лес стаіць маўклівы. Птушкі перасталі спяваць. Пажоўклае лісце патроху асыпаецца на дол. Сонца не свеціць так ярка, як, бывала, улетку. Кожны дзень яно ўсё ніжэй і ніжэй ходзіць па небе. Туманы засцілаюць ад вачэй свет. Сеецца дробны дожджык.



Грудо́ўкі — невялікія горкі; узгоркі.



1. Пра якія прыкметы восені апавядае Якуб Колас? Прачытайце.
2. Параўнайце апісаныя аўтарам твора прыкметы восені з тымі, якія вы заўважылі. Што ў іх агульнае, а што рознае?
3. Стварыце да твора малюнкі словамі. Выкарыстайце пры гэтым словы і выразы з тэксту.

## Гусі клічуць у вырай

***Вера Вярба***



Гусі клічуць у вырай,
І туманы на беразе,
Нізка вербы старыя
Нахіліліся ў верасні.

Дзе ты, лета, з уцехамі,
Ягад кошыкі поўныя...
Загарэўся пад стрэхамі
Клён, шугаючы полымем.

Гульні ўспомніш у верасні
Ты гадзінаю вольнаю.
Клічуць, клічуць наперадзе
Дні цікавыя школьныя.



1. Якую пару года апісаў аўтар?
2. Якія пачуцці перадаюцца ў вершы (радасць, смутак)?
3. Якія словы дапамагаюць уявіць восень як жывую істоту?
4. Якія яшчэ малюнкі можна намаляваць да гэтага верша? Якія фарбы для гэтага выкарыстаць?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора.

## Верасень

***Клаўдзія Каліна***

Месяц Верасень багаты — у яго залатыя шаты. Ходзіць ён па зямлі і дорыць ёй свае багацці.

Зайшоў Верасень у сады цяністыя. Атрос ігрушы залацістыя. Асыпаў з яблынь духмяныя антонаўкі, чырвоныя крамяныя малінаўкі. Захінуў туманамі слівы сінія...

Выйшаў у поле, наставіў мяхоў бульбы. На лузе склаў у копы траву і падаўся ў лес.

Ідзе Верасень лесам. Прыбірае дрэвы ў дарагія ўборы: бярэзнік — у золата, асіну — у чырвань. На дубы навесіў медны ўбор. Не забыўся і пра каліну ды рабіну. Прыхарашыў іх пацеркамі чыр-

вонымі. Пад пянёчкі ды пад кусточкі пасадзіў грыбочкі... Азірнуўся Верасень. Паглядзеў навокал: гарыць-палае асенні лес! Вось толькі ўнізе трава сухая і пажоўклая. Няма красак, адцвілі за лета.

Страсянуў Верасень з дрэў буйную расу — і дзіва! Упалі да камлёў зялёных сосен ды залатых бяроз драбнюткія званочкі! Зацвілі верасы!

Загулі, зазванілі званочкі! Клічуць дзяцей у школу.

Багаты месяц Верасень, багаты! Ён падараваў зямлі пышныя шаты. Насыпаў поўныя засекі збожжа. Адзеў у золата лясы і расквеціў верасы. Таму і завуць яго Верасень.



Захіну́ў — прыкрыў.
Каме́ль — ніжняя патоўшчаная частка дрэва, якая прылягае да кораня.



1. Пра якія прыгоды Верасня апавядаецца ў творы?
2. Як упрыгожваў месяц Верасень прыроду?
3. Прачытайце тэкст. Выберыце з яго сказы пра тое, як Верасень упрыгожваў сад, поле, лес.
4. Чаму Верасень называюць багатым месяцам?
5. Якія малюнкі можна намаляваць да твора? Знайдзіце і зачытайце ўрыўкі з тэксту, якія вы хацелі б праілюстраваць.
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора. Падумайце, як вы будзеце чытаць: хутка, павольна, напеўна. Дзе зробіце прыпынкі пры чытанні?



# Верасень

***Авяр’ян Дзеружынскі***

Чарадзейны
Верасень
Заквітнеўся
Верасам.

Голле
Дуба-волата
Ён прыбраў
У золата.



На рабінках
Быццам кралі.
Гэта —
Ягады-каралі.



А кляновае
Адзенне —
Фарбаў
Рознае адценне.



Кра́лі — красуні, прыгажуні.
Кара́лі — упрыгожанне з каштоўных камянёў, якое надзяваецца на шыю; пацеркі.



1. Якое пачуццё выклікае ў паэта верасень? А ў вас?
2. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.



## СКОРАГАВОРКА

Вырас верас і цвіце.
Восень, верасень ідзе.

# Стракатая Сойка

*Казка*

***Клаўдзія Каліна***

Даўным-даўно было гэта. Толькі пачалася цёплая восень, а птушкі ўжо збіраюцца ў вырай. Пачула Сойка, што і яе сваячка Зязюля рыхтуецца да адлёту за мора.

«Мусіць, за тым морам добра і хораша, калі Зязюля спяшаецца туды? — падумала Сойка. — А што, калі і мне паляцець? І свет убачу, і сябе пакажу».

А трэба сказаць, што Сойка ў той час была не такая прыгожая, як цяпер.

Спатка́ла Сойка Зязюлю і здзівілася. Прыбралася тая перад выраем: рабенькае пер’е аж пераліваецца на сонейку.

— Ах, якая ты, сястрыца, прыгожая! — з зайздрасцю ўсклікнула Сойка.

— Трэба прыхарашы́цца, у чужы край лячу. — І Зязюля паправіла дзюбкай пёрка.

— Хачу і я паляцець у вырай, паглядзець, што за край за тым морам, — сказала Сойка.

— Ты хочаш ляцець за мора? У такім шэрым убранні? І не думай, засмяюць цябе там.

— Вось як! — раззлавалася Сойка. — Дык ведай, я ў сто разоў прыгажэй за цябе прыбяруся... Убачыш.

І не паспела Зязюля здагадацца, што надумала рабіць Сойка, як тая вырвала ў яе некалькі пёркаў.

— Зладзейка! Разбойніца! — закрычала Зязюля. — Усім раскажу, якая ты, — і кінулася наўцёкі.

— Кажы, кажы, а за мора я палячу прыгажэйшаю за цябе, — зацвірчэла Сойка і пачала прыладжваць на сваё крыло Зязюліны пёркі.



Прыладзіла і паляцела да ручайка паглядзецца ў ваду. А там у зарасніках арэшніку мітусіліся і свісталі івалгі.

— Фію-фію! Фію-фі-і! Мы збіраемся ў вырай!

Убачылі Сойку і паляцелі з крыкам:

— Ратуйцеся! Разбойніца! Фію-фі!

— Пачакайце, куды вы? — заверашчала Сойка, але івалгі ўжо разляцеліся.

Сойка пашкадавала, што не змагла раздабыць у іх некалькі жоўтых пёркаў.

Тут яна ўбачыла Сіваваронку і стала асцярожна падкрадацца да яе.

— Гва-алт! — залямантава́ла Сіваваронка, але на гэты раз Сойка ўсё ж пажывілася некалькімі сіненькімі пёркамі.

З таго дня Сойка стала падпільноўваць усіх птушак, што адляталі за мора.

Яе ўбранне рабілася ўсё больш стракатым. З’явіліся белыя, сінія, чорныя пёркі.

І стала Сойка вельмі прыгожай птушкай. І пачала яна лятаць па лесе і хваліцца ўсім:

— Скора і я палячу за мора, няхай усе паглядзяць, якое ў Сойкі ўбранне.

Лятала яна так ад аднае птушкі да другой і ўсё хвалілася сваім уборам.

Аднаго разу Сарока і кажа Сойцы:

— Прыгожае ўбранне, ды не сваё. Калі думаеш за мора ляцець, то спяшайся, а то цябе зіма застане тут.

— Толькі і ведаеш плёткі разносіць па лесе, — сказала Сойка. — Паспею яшчэ, няхай тут усе птушкі пабачаць мой новы ўбор.

Прачнулася Сойка аднае раніцы, а на галінках — снег, зямля ўся зацярушана ім. Сустрэла яе Сарока і затрашчала:

— А што я казала, а што я казала... І ўбор новы прыдбала, і за мора не паляцела!

— Мне і тут добра. Затое няма прыгажэйшай за мяне птушкі ў гэтым лесе.

Снягір пачуў, як хваліць свой убор Сойка, ціўкнуў і паляцеў далей у гушчар. А сярод людзей цяпер можна пачуць:

— Прыбралася як сойка стракатая.



**Страка́ты** — які складаецца з розных колераў, элементаў.

**Плётка** — ілжывая чутка, якая перадаецца з вуснаў у вусны.

**Прыдба́ць** — набыць што-небудзь.



1. Чаму Сойка вырашыла набыць новае ўбранне?
2. Прачытайце тыя ўрыўкі, у якіх апавядаецца, як Сойка прыбіралася.
3. Зачытайце апошні радок казкі і патлумачце яго сэнс.
4. У чым галоўная думка казкі?
5. Палічыце, колькі дзеючых асоб у казцы. Прачытайце твор па ролях.
6. Падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу твора.

# Падранены журавель

*Іван Навуменка*

## I

Сонца яшчэ гарачае, але не такое пякучае, як летам. Неба сіняе, чыстае. Рассякаючы крыламі паветра, носяцца ластаўкі. Ловяць розных мушак і мошак. На правадах сядзяць чароды шпакоў. Яны цяпер набіраюцца сілы перад адлётам у вырай.

У адзін з такіх дзён раптам чуецца ціхае курлыканне. Хлопцы задзіраюць галовы. У небе шнурочкам выцягнуўся жураўліны клін. Наперадзе кліна відаць вопытны журавель, які вядзе чараду. За ім ляцяць астатнія птушкі.

Сумна ад ледзь чутнага курлыкання. Хлопцы сядзяць каля вогнішча. Яны пякуць бульбу. Што смачней за печаную бульбу, якая тут, на полі, асабліва пахне і мае выдатны смак?!

Зноў даносіцца зверху курлыканне — ціхі меладычны звон. У небе ледзь бачным шнурочкам цягнецца новы жураўліны клін...

І вось далёкае курлыканне перарываецца адчайным, рэзкім крыкам. Хлопцы заўважаюць: адна птушка зніжаецца, вось-вось кранецца зямлі. Нарэшце журавель садзіцца на ржышча, працягвае трывожна крычаць.

Хлопцы наперагонкі кідаюцца да птушкі.

Дык вось ён які, журавель! Адно крыло ў яго звісае, цягнецца па зямлі. Яно, відаць, перабіта.

## II

У гэты час па пыльным шляху гоніць статак цялят Ілля Звон. Ён забірае жураўля.

У цялятніку Ілля, які зімой працаваў даглядчыкам, абсталяваў для падраненага жураўля закутак на кармакухні. Тут цёпла, утульна. Карміўся журавель тым, што і цяляты. Ахвотна еў бульбу, буракі, бручку, прызвычаіўся піць цялячае пойла.

Усю восень і зіму хлопцы перадавалі адзін аднаму навіны пра жураўля. А вясной Ілля паклікаў іх да сябе на калгасны двор, сказаў:

— Трывожыцца журавель. Крычыць, ірвецца некуды. Відаць, жураўлі прылятаюць.

Ён адчыніў дзверцы. І адразу з катушка́ выскачыў журавель. Сапраўдны прыгажун — цёмна-



шэры, з пышным хвастом, моцнымі нагамі. Дзівіліся хлопцы: журавель нібы пад музыку пачаў перабіраць нагамі — быццам танцаваў. Затым узляцеў, падняўся над хлявамі, хатамі, зрабіў тры-чатыры кругі і неўзабаве знік з вачэй.



**Ржы́шча** — поле, на якім зжалі збожжа.
**Заку́так** — адгароджаны вугал у памяшканні.
**Кармаку́хня** — кухня, дзе вараць корм для свойскай жывёлы.



1. Якія пачуцці ўзніклі ў вас пры чытанні апавядання? За каго вы перажывалі? Падмацуйце свае выказванні словамі з тэксту.
2. Куды збіраліся журавы?
3. Чаму хлопцам стала сумна ад жураўлінага курлыкання?
4. Што здарылася з адным жураўлём восенню?
5. Чаму крычаў журавель?
6. Хто забраў падраненую птушку?
7. Як жыў журавель на кармакухні?
8. Калі выпусцілі жураўля на волю?

## У грыбах

***Пятрусь Граніт***

Колькі радасці, уцех,
Лес гамоніць рэхам
Той упаў, а той пабег
І заліўся смехам.

— У мяне — баравікі!..
— А ў мяне — апенькі!..
— Рыжык у мяне які —
Хвацкі, хоць маленькі!..

— Вось груздзы, вось маслячок.
— Вось лісічак горы...
А Міхаська ледзь валок
Кошык мухамораў.

Усе ў рогат: — Вось дзівак!..
Вось табе і ўдача?!.
— А дамоў ісці мне як?.. —
І грыбнік аж плача.



Хва́цкі — удалы, спрытны.



1. Якія грыбы збіралі дзеці ў лесе?
2. Чаму ўсе смяяліся з Міхаські?
3. Прачытайце верш моўчкі і падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Пастарайцеся пры гэтым перадаць настрой паэта.

# Ветлівасць

*Рыгор Ігнаценка*

Восеньскім поўднем выбраўся я ў грыбы. Прывабіў мяне светлы бярозавы гаёк кіламетраў за пяць ад вёскі.

Пакуль дайшоў да грыбнога месца, ажно запарыўся. Зняў з галавы капялюш і пачаў грыбы шукаць.

Убачу паміж апалага лісця баравічок ці падасінавік, капялюш надзену на галаву, каб вызваліць руку, і зрэжу грыб. Укіну ў кошык і зноў капялюш здыму, каб валасы абсыхалі.



А ў гэты час якраз адзін хлопчык з нашай вёскі грыбы збіраў. Хадзіў па лесе, хадзіў, а грыбы нешта не траплялiся. Бачыць ён, што я кожны грыб з адкрытай галавою сустракаю, і сам шапку зняў. Толькі ён гэта зрабіў, як наперадзе ўбачыў вялізны крамяны баравік. Хлопчык хуценька надзеў шапку і ўзяў прыгажуна. Паклаў яго ў вядзерца і зараз жа зноў шапку сцягнуў з галавы. Ступіў некалькі крокаў і ўбачыў два чырвонагаловыя падасінавікі. І вось, як на дзіва, грыбы хлопчыку пачалі трапляцца адзін за адным. Толькі паспявай ім паклоны адбіваць. Сустрэў ён мяне ў лесе і пытае:

— Чаму гэта грыбы тады трапляюцца, калі шапку знімаеш?

Я падумаў крыху і кажу:

— Хто ж гэта, скажы, ветлівасці не любіць? Ветліваму кожны рад. А лес, як бачыш, нават свае дарункі ветліваму дае.



1. Ад чыйго імя напісана гэта апавяданне?
2. Чаму ветлівасць любяць не толькі людзі, але і лес? Як пра гэта сказана ў тэксце?
3. Зачытайце радкі, якія вы лічыце галоўнымі ў творы.
4. Перачытайце тэкст яшчэ раз і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
5. Разгледзьце малюнак і падбярыце да яго словы з тэксту.
6. Падрыхтуйце падрабязны пераказ тэксту.









1. Разгледзьце малюнкі. Адкажыце на пытанні:
   1) Куды пайшлі дзеці?
   2) Хто знайшоў вожыка? Дзе?
   3) Што зрабілі дзеці?
   4) Як паводзіў сябе вожык?
   5) Што вырашылі зрабіць дзеці з вожыкам?
2. Складзіце невялікае апавяданне па малюнках.

**Словы для выкарыстання:** *пайшлі ў лес, збіралі грыбы, убачыў сабака, маленькі вожык, скруціўся ў клубок, пачулі брэх, высунуў мордачку, назіралі за звярком, вырашылі пакінуць, да сустрэчы.*

# Ганарлівая птушка

***Рыгор Ігнаценка***

Прыносіць мне неяк восенню сябар падраненага цецерука.

«На, — кажа, — ты з птушкамі любішваждацца. Можа, і прыручыш яго».

Я змясціў ляснога пеўня разам з кура́мі ў хляве. Няхай, думаю, звыкаюцца. Як ні кажы — сваякі. Усяго тае і розніцы, што куры ля чалавека жывуць, а цецерукі — у лесе.

Двое сутак дзікун нічога ў рот не браў. Я ўжо вырашыў: загіне небарака. А які ж прыгажун! Яму б толькі песні спяваць.

А тут яшчэ заходзіць да мяне адзін знаёмы паляўнічы і кажа:

— Дарэмныя ўсе твае старанні. Дзе ты бачыў цецерука ў няволі?

— Не, — прызнаюся я, — нідзе не бачыў.

— У тым жа і справа. Цецерукі вельмі ганарлівыя птушкі. Няволі яны не пераносяць. Пакуль певень яшчэ не снедаў, згатуй з яго добрую смажаніну, — параіў мне на адыходзе паляўнічы. — Інакш усё роўна загіне.

Я нічога не адказаў, а сам сабе падумаў: «Няхай лепш загіне, а смажаніну з яго рабіць не буду».

Калі паляўнічы пайшоў, я засунуў цецерука ў калашыну ад старых штаноў, каб не так трапятаўся, і пачаў карміць. Скачаю галачку хлебнага мякішу, разяўлю яму дзюбу — і туды. На шосты дзень



дзікун сам пачаў дзяўбці. А неўзабаве цецярук еў усё, што давалі курам. «Усё-такі прыжыўся! — радаваўся я. — Яшчэ, чаго добрага, на дзіва ўсім суседзям, вясной і заспявае ў мяне ў хляве!»

З курамі цецярук усё ж не сябраваў. Усяляк пазбягаў іх кампаніі. І спаў асобна ад курэй. Куры — на жэрдачцы ў адным канцы хлява, а цецярук — у другім, на старой баране. Ніяк яму гонар не дазваляў апусціцца да ўзроўню курэй.

К палове зімы ў цецерука загаілася крыло. Нават, як мне здавалася, і бляск на пер’і з’явіўся.

Птушка птушкай — хоць сёння ў лес выпускай. Чакаю вясны. Цікава ўсё ж: а ці заспявае ён у няволі?

У канцы сакавіка забалбаталі на Яснай паляне цецерукі. Ранкам не ўлежаць у ложку. Так душа і рвецца туды, дзе вясна спраўляе сваё радаснае свята. Цярэнцій мой маўчыць. А добра ведаю —

не спіць. Чуваць, як на баране топчацца. Дзень чакаю, другі, трэці — усё дарэмна: не спявае.

«І праўда, што ганарлівая птушка, — урэшце згадзіўся я з паляўнічым. — І хлеў, здаецца, прасторны, а душы, выходзіць, цесна? Яму зараз падавай усе навакольныя лясы, пералескі, шырокія палі з чарнеючымі на іх праталінамі».

— Ну што ж, — кажу, расчыніўшы насцеж вароты ў хляве, — да вясны датрымаў, а зараз на ўсе чатыры бакі адпраўляйся. Толькі глядзі, мне не пападайся. У лесе ўжо некалі будзе разбірацца: дзе свой, а дзе чужы.


**Важда́цца** — доўга займацца якой-небудзь справай.
**Жэ́рдка** — доўгі, тонкі, ачышчаны ад галля ствол дрэва.



1. Чым усхвалявала вас апавяданне?
2. Як паводзіў сябе падранены цецярук? Чаму?
3. Што параіў паляўнічы? Чаму не паслухаўся яго гаспадар?
4. Як вы разумееце выраз «І хлеў, здаецца, прасторны, а душы, выходзіць, цесна»?
5. Якія змены адбыліся ў паводзінах цецерука ў канцы сакавіка? Якое рашэнне прымае гаспадар?
6. Прачытайце апавяданне самі сабе, падзяліце яго на часткі і прыдумайце да іх загалоўкі.
7. Падрыхтуйце пераказ апавядання па плане.

# Восень

*Якуб Колас*



Пуста ў лузе. Толькі стогі
Парыжэўшыя стаяць
Ды шпакі каля дарогі
Цэлы дзень адно крычаць.

Грэчка зжата. Гола ў полі.
Жыта звезена даўно.
Толькі плаваюць на волі
Кучы хмар, як валакно.

Дожджык сее беспрастанку;
Вецер свішча так, як звер...
Колькі лужын каля ганку!
А гразі, гразі цяпер!..

Ссохлі травы, усё павя́ла.
Слоць, плюхота, холад, цьма.
Эх, скарэй бы закрывала
Зямлю чорную зіма!



Беспраста́нку — увесь час.
Сло́та (слоць) — вадкая гразь на зямлі, на дарогах.
Плюхо́та — дрэннае, дажджлівае надвор'е.



1. Якім настроем прасякнуты гэты верш? З якім пачуццём піша паэт пра восень?

2. Якія асеннія краявіды паўстаюць перад вачыма ў час чытання твора?
3. Супастаўце прыкметы восені, апісаныя аўтарам твора, з тымі, якія вы заўважылі. Што ў іх агульнае, а што markdown рознае?
4. Колькі малюнкаў можна было б намаляваць да верша? Апішыце іх, карыстаючыся словамі з тэксту.
5. Выберыце з верша ўрывак, які вам найбольш падабаецца, і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.

## Што за дождж?

***Эдуард Шым***

Што за дождж у лесе пры ясным небе і сонейку? Вось ён шэпча. Вось ён па траве барабаніць і шчоўкае... А ніводнай кропелькі не відаць.

Спелая рабіна асыпаецца памаленьку. Падаюць ягадкі і шалясцяць, быццам маленькія кроплі.

З дуба жалуды падаюць. І яны шчоўкаюць па траве, быццам буйныя цяжкія кроплі.

Ураджайны дождж.



1. Якая пара года апісана ў творы?
2. Што за дождж бывае восенню ў лесе пры ясным небе і сонейку?
3. Знайдзіце ў тэксце словы, якія паказваюць дождж як жывую істоту.
4. Ці даводзілася вам бачыць такі дождж?
5. Намалюйце да тэксту карціну словамі.



## ЛІЧЫЛКА

Гародніна
і садавіна
з восеньскага
лімузіна:
грушы, морква,
кабачкі,
слівы, бручка,
буракі,
бульба, яблыкі,
хурма,
гарбузы.
І ўсё — дарма.
Дзеці, вы сказаць павінны:
што — гародніна,
што — садавіна?



Лімузі́н — легкавы аўтамабіль з закрытым кузавам, забяспечаным шкляной перагародкай.

## Лясная балбатуха

***Рыгор Ігнаценка***

Ляцела Сарока ні блізка ні далёка, доўгім хвастом трэсла, лясныя весткі несла.

А на прылессі Сойка жалуды на зіму запасала. Садзілася на галінку дуба, выбірала самы спелы і несла на пасеку. Там запіхвала яго ў мяккі мох і вярталася зноў на дуб.

Убачыла гэта Сарока і ў крык:

— Паглядзіце, Сойка жалуды хавае! Жалуды Сойка хавае!

Немы крык не спадабаўся Сойцы. Яна кінулася да Сарокі, але дзе ты яе дагоніш. Паганялася за Сарокай ды ў рыжую крону дуба нырнула, каб ад даўгахвостай балбатухі адчапіцца.

Паляцела Сарока далей.

Бачыць, Вавёрка хатку на хвоі ладзіць. І давай сакатаць:

— Паглядзіце толькі, што за клапатуха! Дзе тыя халады, а яна ўжо хатку да зімы рыхтуе!



Давялося Вавёрцы спыніць работу, схавацца ад балбатухі. Бяды не абярэшся, калі ястраб пачуе ды завітае сюды.

Бачыць Сарока, што Вавёрка некуды знікла, паляцела да цяністай крынічкі, каб вады напіцца. Зірк, а каля нары Барсук ляжыць. Тлусты такі, гладкі. Перад зімовай спячкай лёг на сонейку пагрэцца, задрамаў. Сарока як загарлапаніць на ўвесь лес:

— Барсука нехта забіў! Нехта Барсука забіў!

Пачуў Барсук гэты лямант ды хуценька ў нару — далей ад балбатухі.

Пакруцілася Сарока каля цёмнай барсуковай нары і паляцела далей.

Якраз Заяц на асеннюю палянку выбег. Ужо на зіму пачаў пераапранацца: ногі і жывот пабялелі. Убачыла яго Сарока і зноў вэрхал падняла:

— Заяц у белых штанах і ў белай кашулі! Гляньце, Заяц у белых штанах і ў белай кашулі!

Заяц, доўга не думаючы, скок у чырвоны асіннік — толькі яго і бачылі.

Кінулася Сарока туды-сюды — няма Зайца. І далей паляцела — доўгім хвастом затрэсла, лясныя весткі панесла.

Усюды яна, Сарока, бывае, усё бачыць і ўсё знае. Ды толькі заўсёды здзіўляецца: чаму яе балбатухай называюць!

Цяжка самой здагадацца. Можа, вы падкажаце?



**Прыле́ссе** — месца каля лесу, звычайна парослае дробнымі дрэвамі і кустамі.
**Ля́мант** — моцны і працяглы крык.
**Вэ́рхал** — крык, шум.



1. Які настрой выклікае ў вас гэта апавяданне?
2. Пра якіх дзеючых асоб гаворыцца ў ім? Назавіце.
3. Чаму звяры хаваліся ад Сарокі?
4. Якія словы і выразы ўжывае аўтар, паказваючы дзеянні Сарокі? Зачытайце.
5. Як вы ставіцеся да дзеянняў сарокі?
6. Чаму Сароку балбатухай назвалі? Пацвердзіце словамі з тэксту.
7. Разгледзьце малюнак. Якую частку тэксту ён ілюструе? Зачытайце. Якія яшчэ ўрыўкі тэксту вы хацелі б праілюстраваць?
8. Падзяліце твор на часткі згодна з планам.

План

1. Сарока і Сойка.
2. Сарока і Вавёрка.
3. Барсук і Сарока.
4. Сустрэча Сарокі з Зайцам.

9. Прачытайце тэкст па частках.
10. Выберыце тую частку, якая вам найбольш спадабалася, і падрыхтуйцеся пераказаць яе блізка да тэксту.



## СКОРАГАВОРКА

Апранае грак
Чорны-чорны фрак.
Будзе дырыжорам
У сарочым хоры.



**Фрак** — пінжак асобага пакрою.

# Восень шыла сарафан

***Міхась Даніленка***

Задумала Восень сабе абнову пашыць... І перш за ўсё выбрала залацістыя і чырванаватыя колеры: яны ёй больш да твару. Ціха хадзіла палямі, пералескамі і падбірала сабе на сарафан то трохі чырвані, то залацінак, што свяціліся ў лістоце дрэў. І асіны, і грушы ажно чырванелі ў прамянях ціхага сонца. А клёны і бярозы залаціліся сваімі кронамі на ўзлессі.

«Добра было б пацеркі падабраць», — падумала Восень і ўбачыла рабіну. Гронкі яе наліліся чырванню, цяжка звісалі долу. Чым не пацеркі?

А потым Восень яшчэ збірала дробненькія сінюткія кветачкі верасу, сціплых бяссмертнікаў.

А ў кужэльную касу сваю ўпляла трапяткія белыя павуцінкі...

— Цяпер, здаецца, усё, — сказала Восень і паглядзела ў круглае люстэрка — шырокае азярцо.



**Кужэ́льны** — ільняны.



1. Што задумала зрабіць Восень?
2. Якія колеры выбрала яна сабе?
3. Ці ўдалося Восені пашыць сарафан? Падмацуйце свае думкі словамі з тэксту.
4. Знайдзіце словы і выразы, з дапамогай якіх аўтар малюе партрэт Восені.
5. Складзіце свой слоўны малюнак да твора, выкарыстоўваючы словы тэксту.

## ПРЫКАЗКІ

- *Гавары меней, думай болей.*
- *Не хваліся пачаткам, а хваліся канчаткам.*
- *Вясной пасееш — увосень збярэш.*
- *Вясна багата кветкамі, а восень — пірагамі.*
- *Увосень нават верабей багацее.*



Прачытайце прыказкі. Падумайце, у якіх выпадках можна так сказаць.





Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні:
1. Калі і дзе адбываецца дзеянне?
2. Што вырасцілі вучні на прышкольным участку?
3. З якім настроем працуюць дзеці?
4*. Складзіце апавяданне «Збор ураджаю».

**Словы для выкарыстання:** *восень, прышкольны ўчастак, багаты ўраджай, гародніна, капае, вырывае, носяць, бадзёры настрой, працуюць старанна, з ахвотай.*

## ПРЫКАЗКА

- *Што аднаму цяжка, тое гуртам лёгка.*

# Мядзведзь

***Уладзімір Дубоўка***

Набліжалася восень. Набліжалася і пара капаць бульбу. Трэба было адрамантаваць для гэтага кошыкі, сплесці новыя. Узяўшы лодку, я перабраўся на другі бок ракі Бірусы́. Нарэзаў добрай лазы, аднёс у лодку. Пасля падумаў: «Дай прайдуся борам. Можа, дзе знайду сенажатку някошаную. Для коз сена накасіць». Падняўся на ўзвышша. Іду. А напярэдадні, за гадзіны дзве, быў дождж. Тайгу ўсю прамыла, падмаладзіла. А на ўсіх пясчаністых дарожках паразмывала старыя сляды. Ідучы каля адной вывараці, бачу на пяску адбітак следу, нібыта лапця. Я, спачатку не звярнуўшы асаблівай увагі, крочу далей. Неўзабаве зноў бачу сляды, зноў лапці на пяску надрукаваны. Спыніўся я, пастаяў над гэтымі слядамі. Колькі жыву ў паселішчы, не бачыў ніводнага чалавека, абутага ў лапці. Адкуль жа яны маглі ўзяцца ў тайзе? Калі прайшоў далей, бачу новы доказ таго, што лапатнік гэты — мядзведзь. Я, значыць, іду якраз па гарачых слядах. Ад аднаго следу аж пара... Пастаяў я, падумаў: «Нават звычайнай стрэльбы ў мяне няма з сабой, адзін кухонны ножык, якім лазу рэзаў. Змагацца, дужацца з мядзведзем у мяне сілы не хопіць. Не, пайду я лепш да сваёй лодкі ды дадому паеду».



Павярнуў я з бору ў кірунку да ракі і іду ўзлессем. Глянуў на бор — аж на ўзвышшы, на лясной прагаліне, стаіць мядзведзь ды, не раўнуючы, як фельдмаршал які. Правую лапу ўгору падняў, нібы на мяне паказвае. Я спыніўся. «Што рабіць? Уцякаць — самая апошняя справа. Звер адразу за табой кінецца. Пайду на яго. Напалохаецца ды пачне ўцякаць сам». Іду. Мядзведзь ні з месца. Прайшоў далей — мядзведзь хоць бы скрануўся. Падыходжу яшчэ бліжэй.

Мядзведзь стаіць, як скамянеў. Я тады — куды ж мне дзецца? — як гойкнуў:

— Ату, давай яго!

Мядзведзь хоць бы што. Калі я прыгледзеўся лепш — гэта гарэлы пень. Каб не тыя свежыя сляды, я на яго ўвагі не звярнуў бы.

Каму, можа, смешна, а мне страху хапіла.



**Напярэ́дадні** — непасрэдна перад якім-небудзь днём.

**Вы́вараць** — вывернутае з карэннем дрэва.

**Ла́паць** — сялянскі абутак, плецены з лыка, бяросты ці вяровак.

**Пасе́лішча** — месца, заселенае людзьмі; вёска, сяло, пасёлак.

**Фельдма́ршал** — вышэйшае вайсковае званне.

**Го́йкаць** — вымаўляць, выкрыкваць «гой».



1. Што вы адчувалі, калі чыталі тэкст?
2. Пра што вы даведаліся з апавядання? Ад чыйго імя вядзецца расказ?
3. Што перажыў герой апавядання? Пацвердзіце словамі з тэксту.
4. Прачытайце апошнія радкі тэксту. Які сэнс укладзены ў гэтыя словы? Як трэба паводзіць сябе перад тварам небяспекі?
5. На колькі частак можна падзяліць тэкст? Прыдумайце загалоўкі да частак тэксту.
6. Прачытайце апавяданне самі сабе і падрыхтуйцеся пераказаць яго блізка да тэксту ад імя героя.



## ЗАГАДКІ

Зухаваты гэты хлопча
Анічога не патопча.
Хоць па полі, па градзе
Напрасткі заўжды ідзе.

***Уладзімір Паўлаў***

У шэры кажушок
Апрануты дружок,
А выпадзе сняжок —
Бялее кажушок.

***Мікола Маляўка***

Пад лісточкам,
На кусточку,
У чырвоным
Каптурочку
На гародзе
Вырастала,
Цуда-ягадкаю
Стала.

***Уладзімір Мацвеенка***





1. Якія словы з’явіліся падказкай у кожнай загадцы? Прачытайце. Ці дапамаглі вам малюнкі знайсці правільныя адказы?
2. Прачытайце ўголас і завучыце на памяць загадку, якая вам найбольш спадабалася.

## Лістапад

***Янка Купала***

З буйных ліп і бяроз
Лісты валяцца,
Між павалаў і лоз
Рассыпаюцца.

Шапацяць, шалясцяць,
Залацістыя,
Увысь галінкі глядзяць
Пусталістыя.

А як прыйдзе вясна,
Усё адменіцца,
І галінкі ізноў
Зазяленяцца.





**Павáл** — павалены лес, буралом.



1. Які настрой навяваюць вам малюнкі восені ў вершы Янкі Купалы?
2. Знайдзіце ў тэксце словы, пры дапамозе якіх аўтар малюе восеньскія лісты, галінкі.
3. Параўнайце першыя два чатырохрадкоўі з апошнім. Што вы можаце сказаць?
4. Стварыце слоўны малюнак да верша Янкі Купалы «Лістапад».
5. З якім настроем трэба прачытаць апошняе чатырохрадкоўе верша? Чаму?
6. Прачытайце верш уголас, захоўваючы інтанацыю, адпаведную настрою.
7. Што аб’ядноўвае верш «Восень» Якуба Коласа і верш «Лістапад» Янкі Купалы? Вывучыце верш на памяць.



## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ ПА РАЗДЗЕЛЕ «ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ ЗАЛАТАЯ СЕЕ РАДАСЦЬ НА ЗЯМЛІ...»

1. Назавіце прыродныя з’явы, пра якія вы чыталі ў апавяданнях і вершах гэтага раздзела. Падмацуйце свае выказванні чытаннем урыўкаў з тэкстаў.

2. Назавіце аўтараў наступных паэтычных радкоў:

а) «Колькі радасці, уцех,
Лес гамоніць рэхам»;

б) «Вось і лета сышло,
Адспявалі калоссі,
Цяжка нам заўважаць
Як з’яўляецца восень»;

в) «З буйных ліп і бяроз
Лісты валяцца».

3. З якіх твораў узяты ўрыўкі:

а) «Прыносіць мне неяк восенню сябар падраненага цецерука»;

б) «Мядзведзь стаіць, як скамянеў»;

в) «Ляцела Сарока ні блізка ні далёка, доўгім хвастом трэсла, лясныя весткі несла».

4. Знайдзіце ў раздзеле творы, у якіх гаворыцца пра раннюю восень. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўрыўкаў з твораў, якія вам асабліва спадабаліся.

5. Стварыце словамі малюнкі аднаго восеньскага дня. Раскажыце пра гэта, каб усім было цікава вас слухаць.

6. Падумайце і скажыце, у якім з тэкстаў раздзела толькі паведамляецца аб прыродзе Беларусі, а ў якім аўтар дзеліцца сваімі назіраннямі.

7. Успомніце творы, да якіх зроблены гэтыя малюнкі. Назавіце іх.





# ЗМЕСТ

## Люблю цябе, Белая, Белая Русь!..



## У Ведаў Краіну, у свет таямніцаў...

## Восень, восень залатая сее радасць на зямлі...

Вучэбнае выданне

**Вольскі** Артур Вітальевіч
**Гімпель** Ірына Андрэеўна

ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ

Падручнік для 3 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках
Частка 1

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастакі *Л. А. Мурашка, Н. А. Хромава*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп’ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*
Карэктары *Н. М. Кумагер, К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 12.03.2012. Фармат 70×90/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 8,19. Ул.-выд. арк. 4,1 + 0,47 форз.
Тыраж 21 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». ЛП № 02330/0150496
ад 11.03.2009. Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |